# АРШАНСКІ МАЛАДНЯК

№ 2 (4).

Выданьне Аршанскае філіі МАЛАДНЯКА
Ворша, 1926 г.

# Аршанскі МАЛАДНЯК.

Орган Аршанскае філіі Ўсебеларускага Аб'яднаньня поэтаў і пісьменьнікаў — МАЛАДНЯК —

№ 2 (4) | МАЙ (травень) | 1926 г.

## ГОД ПРАЦЫ.

Прайшоў год з часу заснаваньня Аршанскай філіі Маладняка. І гэты пройдзены год прымушае зараз нас зрабіць некаторыя падагульненьні нашай працы, а таксама вызначыць далейшыя яе пцуявіны.

Год таму назад, мала хто з працоўных гораду Воршы і Аршаншчыны ўяўляў сабе добра, у чым сутнасьць працы Маладняка, якія прычыны выклікаюць утварэньне філіі.

І першачарговым заданьнем маладой неакрэпшай Аршанскай організацыі Маладняка зьявілася правядзеньне працы па азнаямленьню шырокіх працоўных колаў Аршаншчыны з тымі заданьнямі, якія ставіць перад сабой Маладняк, правядзеньне працы мобілізацыі сіл—прыцягненьне ў Маладняк здольных да мастацка творчай працы працоўных і асабліва рабоча-сялянскай моладзі.

Неабходна было весьці працу паступовага зрастаньня з масамі, з тым, каб у далейшым стаць неразрыўнай часткай мас і працу сваю поўнасьцю аддаць на паслугу працоўных, на паслугу далейшых заваёў і замацаваньня пролетарскай рэволюцыі.

Многа яшчэ працы ляжыць перад філіяй у далейшым у гэтым напрамку, але значная частка яе выканана за мінулы год.

Выступленьне маладнякоўцаў па школах, комсамольскіх, профэсыйных, партыйных сходах, організацыя маладнякоўскіх вечароў, літдыспутаў, зьвязваньне з масамі праз сваю часопісь, бязумоўна мы значна пасунулі гэтую працу.

Аб гэтым сьведчыць рост нашай філіі за год, як за кошт гораду, гэтак і вёскі, організацыя 3-х студыйных гурткоў, поўная насьпеласьць організацыі новых гурткоў, асабліва па раёнах (Талочын і інш.), тая вялікая колькасьць творчай прадукцыі і лістоў, якой закідаецца наша часопісь.

Але праца ў гэтым напрамку павінна праводзіцца і ў далейшыя часы, яшчэ з большай увагай, большай сталасьцю і напружанасьцю, бо толькі ў выкананьні гэтае задачы, мы здолеем выканаць узятыя на сябе аснаўныя нашы заданьні.

Другое заданьне, якое ляжала на нашай організацыі, гэта выхаваўчая праца сярод сваіх сяброў. Да выкананьня гэтага мы змаглі падыйсьці толькі ў апошнія месяцы нашай працы, пасьля Ўсебеларускага зьезду, і больш сталага організацыйнага афармленьня, якое вылілася ў організацыю студыйных гурткоў і ў перавыбары бюро філіі. Але гэтую працу мы толькі распачалі. У далейшым найбольшая увага працы студыйных гурткоў павінна быць зьвернута на гэта—к плянаваму і сыстэматычнаму правядзеньню выхаваўчае працы на падставе дырэктыў Ц. Б. Маладняка і нашай філіі.

І трэцяе заданьне, якое стаяла перад намі ў працы за мінулы год, гэта наша мастацка-творчая праца як і набываньне к ёй неабходных навыкаў і выяўленьне яе перад шырокімі слаямі працоўных Беларусі. Бязумоўна і ў гэтым мы маем посьпехі. Калі першы нумар нашай часопісі „Аршанскі Маладняк" год таму назад мы выдалі, карыстаючыся значнай дапамогай з боку Ц. Б. Маладняка, апошнія нумары сьведчаць, што зараз, з гэтым спраўляемся ўжо мы самі і спраўляемся ўсё лепш з кожным часам, як з боку колькаснага, так і з боку якаснага.

Што належыць да пытаньня набыцьця маладнякоўцамі навыкаў да мастацка-творчай працы, то ў гэтых адносінах прца ўжо распачалася, пакуль-што ў адным студыйным гуртку, але ў недалёкім часе будзе праводзіцца і па другіх.

І як новы момант у далейшай нашай працы павінна зьявіцца Організацыя ў Аршанскім Маладняку апрача літэратурна мастацкіх сіл—навукова-маладнякоўскіх сіл, прымаючы пад увагу існаваньне на Аршаншчыне Вышэйшае школы са значнымі шэрагамі маладых навуковых працаўнікоў. Маладнякоўская організацыя павінна стаць у поўнай меры Маладняком Беларускай культуры, павінна дапамагаць хутчэйшаму поступу наперад, к новым рэволюцыйным заваёвам, к социялізму і комунізму.



Ўладзімер Дубоўка

## З нізкі „Шыпшына“.

мэлёды

I.

Думкі лятуць, як дэпешы бяз адрасу,
можа ад смутку, а можа ад радасьці.
З тым разьмінуцца, а з тым прывітаюцца.
Ці гэта вечар, ці мо' гэта раніца?
Словамі кволымі, словамі сьціплымі
так па крысе сваю моладасьць выпяю.
Усё адцьвітае, таксама і моладасьць,
вось і трывога зьяўляецца ў голасе.
Цешуся толькі, што марна ня згіну я,—
проста і чэсна іду пуцявінаю.
З братам па братняму, з ворагам воража.
Любы мой дружа,—заўсёды мне хораша.
Праца—працую, з імклівай напорнасьцю;
думка у дзеях да мэты ўсё горнецца.
Вецер галосіць над нашаю сьцежкаю,
сілы навальныя нас не пацешылі...
Часам дзяўчына прытуліцца ласкава,
часам ля воч мільгане маіх казкаю.
Вусны на вусны і сэрца адчынена...
Ой жа ты сэрца, ты сэрца дзяўчыніна!
Словамі сьціплымі, словамі кволымі
я і ўшаную жыцьцёвае полымя.
Думкі лятуць, як дэпешы бяз адрасу,
многа ў іх смутку, а больш яшчэ радасьці...

## II.

Завіліся струны, струны дзіка звоняць,
навальніца грае:
зацьвіцеў мінор.
Ночка-начаніца прымружыла скроні
і галосіць пушча смуткам у прастор.

У імкненьні вечным, у імкненьні чыстым
я іду наперад,
мабыць не адзін.
Мэта сьвеціць зоркай, зоркай прамяністай,
дык чаму-ж пад змрокам стужкі пуцявін?

Я іду праз пушчу, я іду праз вецер,
навальніца плача,
пошчак не заціх.
Па-над маёй сьцежкай той агонь ня сьвеціць,
што у маім сэрцы і ў вачох маіх.

Папараць сплялася з верасам пад ногі,
распасьцерла ніцам
пасткі-далані.
Навальніца вокал расьсявае скогат,
утапіла зоры ў пацерках суніц.

Я зьбяру суніцы, я зьбяру жаданьні:
запалю іх песьняй,
ці згару і сам,
Лепш пагібель вомірг для красы Сьвітаньня,
чым на сініх вочах вечная раса.

III.

Акорды, акорды...Ў крыніцах мэлёдый
гавораць прасторы, вякі і народы.
Палын мяжадольны, а также і слодыч
у вашых павевах, акорды, акорды...

Гавораць, гавораць... Далёкае блізка,
з сучасным нітуецца шчыльна істота.
Пярэстай вясёлкай паветрацца пырскі,
ў наступнае мкнуцца узьлёты, узьлёты...

З сучасным сучаснасьць... Сястра і матуля...
У сэрцы каханьне затым і ня гасьне.
Ў мінулым узьлётаў ня мала заснула
і ўсе яны мелі ў сучасьсі сучаснасьць...

У сэрцы, на сэрцы... Адвечная тройца:
калыска, труна і між кветак люстэрка.
— Пялёсткамі кветак люстэрка ускройце:
ня будзе трывогі у сэрцы, на сэрцы...

Акорды, акорды... Пялёсткі зьлятаюць
у вашых павевах імклівых і гордых.
Той радасьцю ўпіўся, той смутак глытае...
Скранеце каменьне, акорды, акорды!

IV.

О, Беларусь, мая шыпшына,
зялёны ліст, чырвоны цьвет!
У ветры дзікім не загінеш,
чарнобылем не зарасьцеш.

Пялёсткамі тваімі стану,
на дзіды сэрца накалю.
Тваіх вачэй,—пад колер сталі,—
праменьне яснае люблю.

Ніколі пройме з дзікім ветрам
не разьвіваць дзявочых кос.
Імкнешся да Комуны Сьвету,
каб радасьць красавала скрозь.

Варожасьць шляху не зачыніць:
у перашкодах дух расьце.
О, Беларусь, мая шыпшына,
зялёны ліст, чырвоны цьвет!

## V.

У Смаленску, над Дняпром шырокім
напаткаў я моладзь агнявую.
Нашу дружбу, нашыя гаворкі
задушэўнай песьняй ушаную.—
Зацьвітай, зара, на небасхіле,
зараніца, закрасуй ты ружай!
Што на сьвеце роўнага па сіле
знойдзецца да шчырай дружбы?
Злосьць людзкую—скнара хай зьбірае,
абыходзім подласьць мы здалёку.
А вось радасьць, што цьвіце над краем,
у юнацкіх сэрцах не замоўкне.
Яна з воч сьвіціцца сьветла-сініх,
яна з воч сьвіціцца стальна-шэрых.
І у вочах радасьць не застыне,
павадкай размые стромкі бераг.
Зацьвітай, зара, ў лілёвых сьценях—
пунсавеюць і яны паволі.
Калі сёньня думкі ў лятуценьнях,—
значыцца, жыцьцё ў іх дзеі кволіць.
Закрасуй ты кветкай, зараніца,
роўнай моладасьці кветаборнай.
На пялёстках на тваіх ільсьніцца
прамяністасьць ад зямных сузор'яў.
Прамяністасьць цьмянасьці ня знае:
ці гарэць ці згаснуць, кон адзіны.
Пашыраецца у росах занізь,
супакойны я за лёс краіны...
Над Дняпром і шумным і маўклівым
напаткаў я агнявую моладзь.
Гэта моладзь—дэсань зіхатлівы,
злататканая пад ім асноведзь.

Москва
Сакавік
1926 г.

С. Дробуш.

# ПРА МАСТАЦТВА І ДУБОЎКУ

## I.

Ніколі на сьвеце
без змаганьня жыцьцё ня дынаміць.
*Дубоўка. Трысьцё.*

Зьмена плыняй у сусьветнай літаратуры—зьявішча вельмі вядомае, гэта зьмена мае свае законы і формы, падобныя да законаў соцыяльных зьмен у гісторыі, уцяжарвае аналіз літаратурных фактаў толькі нязвычайнае іх багацьце ды яшчэ асьцярожнасьць, якая патрабуецца пры іх разглядзе і галоўным чынам пры ацэнцы іх вартасьці ў сучасным. Імкненьню прадставіць у творы іменна сучаснае, пагражае магчымасьць спусьціцца да шаблёну, імкненьне да арыгінальнасьці можа прывесьці пісьменьніка да надуманасьці. Каб пазбавіцца і таго і другога, трэба заўжды стаяць на варце сваіх думак, трэба сапраўды іх узгадаваць у сваім сэрцы і тагды напісанае будзе праўдай, сучаснае, будзе сапраўды сучасным, арыгінальнае сапраўды арыгінальным.

Шчырасьць ёсьць першая умова мастацтва.

Калі чытаеш творы прошлага, у якіх абмалёўваецца жыцьцё чужое для нас цяпер, грамадзкія адносіны даўно забытыя, толькі тыя з іх робяць ураженьне мастацтва, у якіх адбіваньне тагочасных настрояў выконваецца не пры дапамозе схэматычнага ўжываньня літаратурных прыёмаў свайго часу. Вядома, прыёмы не мяняюцца, ды яны і ня могуць мяняцца, паколькі мы вывучаем творы, зьмешчаныя на аднэй якой—небудзь старонцы гісторыі, таксама і схэму, патрэбную пры агульным разглядзе, можна знайсьці заўжды, іначай ня было-б ніякай сувязі паміж літаратурнымі творамі, а значыць і гісторыі літаратуры, але гэта ўсё забываецца, калі чытаеш сапраўды мастацкі твор, няма часу аб гэтым думаць, схэма губіцца, расплываецца, яе перастаеш адчуваць, у творы бачыш ня толькі адбітак жыцьця мінулае эпохі, а нешта большае, нешта актуальнае і ў сучаснасьці.

Здольнасьць пісьменьніка выхопліваць агульна-чалавечае з жыцьця, ператвараць жыцьцё пры дапамозе сынтэзу, ачышчаць, мяняць яго—прычына гэтае актуальнасьці. Няўмірушчасьць твору поэты яшчэ больш абмяжоўваецца гэтай здольнасьцю. Калі роман і можа нас цікавіць як памятнік эпохі, лірычны верш аджыўшае эпохі, бяз гэтага агульна-чалавечага, губіць усю сваю вартасьць; але затое лірычны верш можа найлепей выразіць дынаміку эпохі. Дзеля сваёй непасрэднасьці і кароткасьці ён зьяўляецца самым чулым сродкам выяўленьня малейшых зьмен у жыцьцёвых узаемаадносінах. Адсюль зразумела, чаму лірычны верш найбольш распаўсюджаная форма творчасьці ў пэрыоды соцыяльнай ломкі.

Беларуская крытыка скардзіцца на малую колькасьць у беларускай літаратуры твораў прозаічных, галоўным чынам даўгіх, як-то: роман аповесьць, папярэдняе можа служыць адказам на яе закіды. Ня ўсё адразу, па чарзе, ягамосьці, прыдзе пара, калі буйна заквітнее і проза —гэта будзе тагды, калі жыцьцё адстоіцца, вальлецца ў пэўныя рамкі, цяпер-жа, калі за намі так недалёка Кастрычнік, і калі мы стаім перад магчымасьцю ўбачыць ня меншыя Кастрычнікі, няма нічога дзіўнага ў такой пашыранасьці іменна вершаў; хай ня пужаецца тавaрыш Міхал Кастрыцкі „вершаманіі“ *) жыцьцё само адбярэ лепшае і выкіне часовае, апроч таго сур'ёзным рэдактарам заўсёды ў гэтай справе дапамагае рэдакцыйная карзіна. Багацьцю вершаў трэба хутчэй радавацца, яно сьведчыць аб вялікім грамадзкім руху на Беларусі, бо калі нават і няпрычасны чалавек вершы пачаў пісаць, ясна, што не спраста гэта. Верш ёсьць сродак выразіць пачуцьці. Паколькі паўстае патрэба перадаць іх другім, перадаць так, каб гэта, як кажуць, скранула каменьні, найлепшая форма дзеля перадачы якраз верш, гэта ня трэба ведаць, гэта можна адчуць, таму і звычайны чалавек у пэўныя хвіліны, замест артыкулу аб пахаваньні здольнага комсамольца, можна надыслаць хаўтурны марш, але гэта толькі ў пэўныя хвіліны. Чым больш такіх пэўных хвілін у жыцьці, тым лепш.

Кожная зьмена соцыяльных адносін прыносіць з сабою і зьмену ва ўсіх іншых жыцьцёвых адносінах: моральных, сямейных, рэлігійных, культурных і г. д., мастацтва ніколі не пазбаўлена уплыву гэтай зьмены. Што-б там ні гаварылі тэорэтыкі чыстага мастацтва, мастацтва дзеля мастацтва, аб сваёй незацікаўленасьці політыкай, творы іх сьведчаць якраз адваротнае, яны зьяўляюцца ня ў меншай меры, як і ўсякія іншыя, паказальнікам жыцьця, нават і політычнага, свае эпохі.

Ніколі так адразу не пераходзіць адна тэорыя мастацтва ў другую, патрэбна доўгая барацьба за яе прызнаньне, якая найцясьней зьвязана з клясаваю барацьбою. Шуканьне орыгінальнага становіцца тагды на першае месца, неабходны вынік адсюль—новая форма.

Калісьці, гады паўтары назад, яшчэ Ул. Дзяржынскі падымаў пытаньне адносна сувязі між формай і зьместам у мастацтве. Памянуўшы Шэльлінга і Гегеля, і паразважаўшы ні многа, ні мала так, каля дзьвёх старонак, ён знашоў, што „пад формай трэба разумець усё тое што застаецца ў мастацкім творы, адняўшы ад яго зьмест.“ **) Думка клясычная, дастойная быць зьмешчанай у любым падручніку поэтыкі, як прыклад літаратурнай несьвядомасьці. Гэта ўсё адно, калі сказаць „выліўшы памыі, застанецца памыйніца“, хай прабачаць нам чытачы за такое параўнаньне.

---

*) Фэльетон „Вершаманія—хвароба тутэйшая“. „Сав. Бел.“ 21 сакав. 1926 г.

**) Беларуская літаратур. сучаснасьць. Полымя. 1925 г. І. ст. 138.

Зьмест і форма ў мастацтве—адзінка, непадзельны комплекс, толькі поўная сугучнасьць абоіх і можа зрабіць уражаньне. Прынцыпова памыльваецца той, хто кажа, думка добрая, напісана толькі слаба, раз напісана слаба, твор губіць усю сваю мастацкасьць, ён ня можа захапіць, ён ня можа пакінуць заметны сьлед у процэсе ўспрыйманьня. Дзеля таго шуканьні формы заўжды надта цяжкая і адпаведная рэч. Пачуцьці—вынік жыцьцёвага стану эпохі, форма—вынік пачуцьцяў. Новая форма нараджаецца ў муках, з варожаю апаскай глядзяць на яе прадстаўнікі старой літаратурнай традыцыі, таму што яна прышла замяніць іх, таму што яна іх губіць.

## II.

**Уладысю Дубоуцы.**

> Рэдакцыя дастала Вашы вершы. Надрукаваць жа іх нельга, бо яны слабыя: ня маюць рытму і вытрывалай думкі. Але задатак пісаньня ў Вас ёсьць. Пішыце болей. Але лепш паспрабуйце прозай—лягчэй.
>
> *Савец. Беларусь. 1921 г. 22/V.*

Добрая рэч чатырохстопны хорэй, альбо ямб, гладка, чыста, прастата нязвычайная, раз два, раз два, і так бясконца, думка коціцца з узвышша на даліну і перапынкаў ніякіх; прачытаўшы, застаецца роўнае пачуцьцё задаволенасьці і спакою, як „летом сладкий лимонад", гэта па Дзяржавіну, зусім іншыя іпостасы, розныя рытмічныя перабоі, недасказы, перагружанасьць вобразаў: уражаньня лёгкасьці як ня бывала, твор успрыймаецца напружана, патрабуе пэўнай затраты сіл, і толькі пасьля ўсяго гэтага, як вынік, зьяўляецца эстэтычная эмоцыя.

Калісьці няпрыветліва спаткала рэдакцыя „Сав. Беларусі" першыя творы Дубоўкі; прывыкшая да твораў старых пісьменьнікаў, рэдакцыя праглядзела новую жыцьцёвую праўду, якую прынесла з сабою яго творчасьць.

Вершы папалі ў Вільню і там былі надрукованы асобным зборнікам пад назваю „Строма". *) Цяпер, калі мы ведаем некалькі зборнікаў Дубоўкі, гэты першы для нас ня менш дораг па сваёй сьвежасьці, па незакончанасьці маладога яшчэ тагды таленту.

## III.

> Вецер! мой вольны браточак ты вецер!
> Крыльле мне!.. Крыльле сваё ты пазычыш?.
>
> *Дубоўка. Строма.*

Семнаццаць кароценькіх вершаў, разьбітых на тры аддзелы складаюць „Строму"; вершы распарадкаваны вельмі ўдала.

*) Ул. Дубоўка. Строма. 1923. Выданьне „Нашай Будучыны".

Ёсьць поэты, якія пішуць свае творы паасобку, у залежнасьці ад настрою, Дубоўка піша свае вершы нізкамі, зборнікамі: нізка пацерак, нізка трыпціхаў, нізка шыпшын і. г. д.

Невялічкая колькасьць вершаў, зьмешчаных у першым яго зборніку—одно цэлае: з чужыны імкнецца ў лятуценьнях строма яго думак да Беларусі.

„Строма“ напісана ў Маскве, у тыя часы, калі там быў нязвычайна моцны беларускі рух: выдаваліся беларускія кніжкі, наладжаваліся спэцыяльныя концэрты, вечарыны, даклады аб Беларусі і. г. д.

Дубоўка прымае дзейны удзел ва ўсім гэтым. Ён перачытвае ўсе беларускія кніжкі таго часу, ад лемантара да задачніка. Вобразы далёкай, убогай, але любай яго сэрцу Беларусі ажывіліся ў ім, зацьвілі „кармазынавым макам“, паліліся стромаю „ў край сасонак, кляноў і лазы“.

Прыгожасьць усходу й заходу сонца, навальніцы, сум беларускіх балот, глыбіня беларускіх вазёр, срэбнасьць рэчак адбіліся ў яго творчасьці чароўнай экзотыкай.

Яно можа сапраўды гэта ня так ужо й прыгожыя малюнкі, жывучы на Беларусі можна іх зусім не заўважыць, ды й шмат ёсьць такіх людзей, што ўвесь свой век пражывуць, ня бачачы нічога ні ў жыцьці, ні ў прыродзе.

Дубоўка ўмее бачыць, апроч таго ён мае вялікую фантазію, умее дамаляваць, дапоўніць вобраз багацьцем сваіх мар.

Прырода ў творчасьці Дубоўкі ня зусім рэальна, гэта штучная прырода, спэцыяльна падабраная. Прырода ў яго не выяўляецца выключна апісальнымі прыёмамі, ён не дае шэрагу дакладна абмяжаваных незалежных малюнкаў, ён паказвае прыроду ў яе паступовасьці, ён ажыцьцяўляе прыроду, робіць яе нейкаю істотаю, якая можа адчуваць, прымаць удзел, рабіць уплывы і заўжды дапасоўвае да яе чалавека й яго думкі. Мастацкасьць апісаньняў прыроды ў Дубоўкі рэдкасная; з ім можна параўнаць па манеры толькі М. Багдановіча і Павло Тычыну

## IV.

> Салавей пяець над ракой, як слаўна!.
> Сны сьніць сасоньнік...
>
> *Дубоўка. Строма.*

У „Строме“ Дубоўка зьліваецца з беларускаю прыродаю, здаецца, што ён сам сьніць прыгожыя сны разам з сасоньнікам.

На працягу шаснаццаці строчак вершу „Зданьні“ дадзены вечар, ноч і раніца. Якая колёсальная экономія вобразаў патрэбна, каб так коратка перадаць такую багатую зьмену хварб. Вецер косы ночы расплёў, дуроньнік. Косы рассыпаліся, заслалі зямлю, наступіла цемра.

Вецер косы ночы заплёў. Сьвітае. Гэта пачатак і канец вершу, сярэдзіна стаіць як бы загадкаю перад чытачом, успрыйманьне губіцца ў яе бяздоннасьці.

Апроч уплываў М. Багдановіча (ўспомніце „У зачараваным царстве“ з яго „Вянка“), на гэтым першым зборніку можна яшчэ заўважыць уплывы Алеся Гаруна (прысьвечаны яму верш і часткова ў другіх вершах). З М. Багдановічам яго блізіць глыбіня адчуваньняў і цьвёрдасьць формы, з Гаруном аднолькавасьць становішча: Дубоўка ў той час таксама глядзеў на Беларусь з чужыны, адзін быў сасланы, другога жыцьцё (імпэрыялістычная вайна), прымусілі шукаць прытулку далёка ад Беларусі. З расейскіх пісьменьнікаў можна заўважыць лёгкія уплывы Есеніна і Бальмонта (верш „Не жальбую“, ст. 17 і „Балаты разьлягліся“, ст. 27). Пасьля, у другіх зборніках (Трысьцё, Credo) Дубоўка знойдзе цалком свой уласны шлях і уплывы гэтыя ў большасьці адпадуць, я разумею уплывы з боку формы, духоўна блізкімі поэце застаюцца такія пісьменьнікі, як Багдановіч, Есенін, Павло Тычына.

## V.

Ты адзін ад усіх найвялікшы,
маладых гадаваў сваёй песьняй.
Я стаю галаву схіліўшы,
з абяцаньнем твой заклік зьдзейсьніць

*Дубоўка. Янку Купалу.*

„У жыцьці кожнага народу бываюць кругабегі, якія адбіваюцца на далейшым разьвіцьці яго культуры і даюць, адначасна, вялікіх выдатных людзей“, так пачынае свой артыкул да 20-х гадовага юбілею Янкі Купалы Дубоўка.

Мабыць ужо такая краіна Беларусь, што ў першую чаргу ёй прыходзіцца шукаць свайго адраджэньня.

Фран. Багушэвіч быў першым сьвядомым адраджэнцам, у нашаніўскую пару, у часе росквіту беларускай літаратуры на чале адраджэнцаў стаяў Янка Купала, цяпер на зьмену прышоў „Маладняк“, у сувязі з новым, моцным нацыянальным і культурным адраджэньнем, якое дае краіне комуністычная ўлада.

Цяпер ужо ня трэба заклікаць „пажалей мужыка—бедака“, цяпер „мужык“ сам схамянуўся, сам будуе сваё матар‘яльнае багацьце, руйнуе цемру сваёй несьвядомасьці, не адзін дзяцюк цяпер у Маскву загарэўся, шлях жа яго: Менск—Самарканд. Але памяць аб мінулым жыве і будзе жыць, Дубоўка шануе Янку Купалу.

Боль, якую адчуваў за справу забытага ўсімі беларускага народу Янка Купала, з усёю сілаю успрыняў і захаваў у сабе й Дубоўка.

Мары Янкі Купала пачынаюць збывацца.

Беларусь больш ня стане крыжам,
Пры дарозе з Хрыстом расьпятым *).

Прышла пара актыўнай барацьбы. Пытаньне пастаўлена востра— быць ці ня быць Беларусі.

Калісьці нясьмела пачынала жалейка, годзе, цяпер загрымела пяруном і адбілася ў сэрцах маладога беларускага пакаленьня.

На зборніку „Строма" можна заўважыць, апроч усякіх іншых, таксама й уплывы Янкі Купалы.

## VI.

Вы мэлёдый ня слухаеце,
а я прыкладаю вуха да долу.
**Дубоўка. Credo.**

Сур'ёзнасьць, з якою апрацоўвае Дубоўка свае вершы, заўважвалася нашай крытыкай ня раз, назву „мастака", „майстра" яму ўжо давалі.

Цікава на чым грунтуецца гэта назва.

У сваёй кнізе па тэорыі прозы Віктар Шклоўскі гаворыць аб так званым „остранении", гэта значыць аб уменьні паказваць добра вядомы прадмет з іншага, яшчэ невядомага боку і такім чынам заставіць чытача ўспрыняць яго на сьвежую голаў.

Умелы падбор эпітэтаў, нязьбітая рыфмоўка, правільная кампозыцыя, вось што патрабуецца ад поэты з боку формы. Рыфма і вобразы Дубоўкі запамінаюцца, нядарам у творчасьці маладых сучасных поэтаў цяпер так ня рэдка можна прасачыць знаёмыя нам вобразы Дубоўкі. Слова „трысьцё", стала цяпер зацёртым словам, „дываны з лістоў", „кроў крынічыць", і так далей і так далей, усё гэта ўвайшло ў літаратурнае жыцьцё.

Дубоўка ўдала ўводзіць новыя словы, якімі ўзбагачвае беларускую мову, некаторыя з іх ужывуцца, некаторыя адпадуць—такі лёс усякіх нэолёгізмаў.

Значная частка нэолёгізмаў Дубоўкі—дзеясловы, напр.: *кармазынам асмужаны, вецер наземіўся, чайкі надводзяцца, успаветрыліся пыркі, платан водарыць, Крым навальлівіць, заістужыць шлях, што годзіць, яскравіць, мора іглініць пыскі і т. д.*, прыём ставарэньня вельмі просты: да іменьніка альбо прыметніка прыстасоўваецца дзеяслоўны канчатак.

Што тычыцца іншых слоў паміж іх нэолёгізмаў сустракаецца нямнога, новае тут скарэй з боку малой распаўсюджанасьці слова, яго павятовага значэньня.

*) Маладняк № 10. Артыкул Дубоўкі, ст. 106 (Цытата з вершу Серады).

Вялікай лічбы эпітэтаў Дубоўка ня любіць, частае іх ужываньне надае творчасьці статычнасьць; эпітэты яго альбо простыя: *мауклівыя зоркі, жывіца сасновая, нялюдзкі прыгон, занядбаная дзяўчына, стромкія хвалі* і толькі часам, так сказаць „узмоцненыя“: *чорна-чорныя косы, празрыста—нязнаныя прасторы*, антытэзныя: *пурпуровы рогат, немы лямант, сіняя боль*, характэрная асаблівасьць яго—дзеяслоўныя эпітэты: *пясок бадзячы, віратлівае жыцьце, вандроуныя хмары*.

Дубоўка ў сваіх вершах ужывае надта часта дзеясловы (ня ў рыфмах, вядома!), прыём замены эпітэта дзеясловам сьведчыць аб яго імкненьні да дынамізму.

Рытмічнае багацьце вершаў Дубоўкі грунтуецца на яго добрым знаёмстве як з сусьветнаю літаратурай, так і з народнаю творчасьцю. Народная песьня многа дала Дубоўку, гэта скажацца ня столькі нават у рытміцы, колькі ў композыцыі (сыстэма паўтораў, цыкль і г. д.) Як і ў народнай творчасьці, цьвёрды мэтр у Дубоўкі пападаецца ня часта, рытм у яго выбіваецца з мэтру і пераліваецца ў мэлёдыю, напрыклад такія дзьве строчкі з „Апошняй песьні“:

І назад ня гляну
Як калісьці Ван-Чжао-Дзюнь;—

першая—звычайны трохстопны хорэй, у другой, замест апошняга хорэя, стаяць цэлых чатыры склады (спондэй і ямб), і гэта зроблена зусім сьвядома,з мэтай затрымаць увагу чытача, рытмічныя перабоі заўжды сродак падкрэсьліваньня.

Рыфма Дубоўкі пабудавана на асонансах, на няпоўнай сугучнасьці, яна ня лезе ў вушы, губіцца ў агульнай мэлёдычнасьці гукаў. У Дубоўкі ня толькі канцы музычны, музычна ўся строчка, увесь верш (*Астатнімі сталі ля ставу сьнягі*, алітарацыя зычных *ст*. *Пальцамі жоутых кляновых лістоў* паўторы *о* пад націскам, алітарацыя на *л* і г. д.

Композыцыя Дубоўкі найбольш яскрава выявілася ў яго поэмах. Поэма, як жанр, не ўдаецца Дубоўку, яго поэма гэта тая самая нізка мэлёдый. Сюжэт часам хаваецца настолькі, што яго ледзь-ледзь вылавіш, таму заўважваецца композыцыйная рванасьць, яднае поэму сконцэнтраванасьць настрояў аўтара. Дубоўка лірык, у гэтым яго вузасьць і моц.

## VII.

У цябе калі кіне хто камень,
Падымі і вазьмі ў кішэню.
*М. Чарот. Карчма.*

Дубоўка ў сваёй творчасьці адзыўчыў. Яму ня ўсёроўна, дзе і як што робіцца.

З-закардоньня атрымалася беларуская газэта, дзе коратка сказана, што ў такой гміне, у такой вёсцы замучылі беларускага паўстанца.

Сухія строчкі газэтнай хронікі зацьвітаюць вянком песень, спавіваюцца жалем; але разам з тым Дубоўка зазывае да помсты, ён ведае, што за зьдзекі дорага заплоцяць вяльможныя паны, што рана ці позна прыдзе пара перамогі, прыдзе аслабаненьне.

У Маскве трамвай зарэзаў талентнага вучня Ціміразеўскай Акадэміі, беларуса Паўлюка Жука, Дубоўка піша верш, прысьвечаны яго памяці.

Яго ў роўнай меры кранае і праўда, і крыўда, адну ён вітае, другой шле праклёны.

Залатой сярэдзіны Дубоўка ніколі не выбірае, творчасьць яго ня хіліцца быльлём па ветру, яна падобна трысьцю, тонкаму і крохкаму.

Дубоўка можа зламацца, але са шляхоў сваіх ня сыйдзе.

Шляхі да мэты—як вялі, вядуць...*)

Абвінавачваюць Дубоўку ў тым, што ён недакладна вызначыў сваю ідэолёгію, што яго творчасьць ня мае сталага напрамку. Яго вершы сьведчаць якраз адваротнае.

Ён хоча:

Будаваць краіну Працы і Змаганьня,
Каб на гонях, занядбаных скрозь,
Красавала шчасьце,
Красавала вечна Раньне **).

Ён кажа:

Сапраўды—чым мяне ты пераломіш?
бяз хлеба—жыў і хлеб з крапівы—еў.
А духам быў—заўсёды комсамолец,
і толькі зірк сьціскаўся і шмрэў. ***)

Апроч мотыву „закардоньня“, мотываў грамадзкіх, мотываў публіцыстычных (Калінішчына), у творчасьці Дубоўкі ёсьць і мотывы асабовыя, галоўным чынам мотыў каханьня, у поэмах жа пападаюцца мотывы гістарычныя (легэнды).

У сваёй творчасьці ён паказвае соцыяльнае становішча ня толькі беларусаў, ён бярэ нярэдка вобразы і з жыцьця іншых краін, напр.: у поэме „Там, дзе кіпарысы“ апісваецца Крым, ён кажа:

Што прыгажосьць ім навакольля,
праменьне сонца, казка ўся,—
пытаньне катаваньнем коліць,
каторы будзе дзень сьсякаць. ***)

У дрэнных жыцьцёвых варунках не патрэбна прыгожасьць, трэба зьмяніць гэтыя варункі. Зьмяніць іх можа толькі соцыялістычная грамада Сусьвету сваімі колектыўнымі сіламі.

---

*) Дубоўка. Трысьцё. ст. 28.
**) Дубоўка. Credo. ст. 8.
***) Дубоўка. Там, дзе кіпарысы. ст. 9.

## VIII.

Жыватворчы праглынуў агонь.

*Дубоўка. Апошняя песьня.*

Парою сумным становіцца Дубоўка, хто не гаварыў аб гэтым суме. Прычына яго крыецца ў супярэчнасьці фактаў пастаўленай мэце.

Прыходзіцца змагацца і змагацца.

Часам зьвіваецца ўся істота ў нячуваным болю, хочацца патушыць агонь творчасьці, губіцца надзея, але гэта толькі на хвіліну.

Жыватворчы агонь паліць, яго ня можна праглынуць. Надзея ўваскрасае зноў, мэта зноў пачынае сьвяціць пяцікутнаю зоркай, шлях істужыцца песьнямі.

Ні Трысьцё, ні Credo не зьяўляюцца яшчэ тым узвышшам, на якое павінна ўзыйсьці творчасьць Дубоўкі, мы яшчэ будзем бачыць гэтае ўзвышша.



В. Сташэўскі.

# ШТО ЗА ПЕСЬНІ.

Што за песьні былі і паэты,
І каго апявалі яны?
Расфуфыраных, пышна адзетых,
Ім акорды ліліся адным.

Мы ня будзем масьціць часу кладак:
Ён тут блізка за намі стаіць.
Яны нюхалі ў пальчыках ладан,
Ім хацелі й мяне напаіць.

Мая песьня да тэй, што улетку
Рупнай працай на гонях сваіх,
Аздабляе прыгожа палеткі,
Будзіць песьней прасторы, гаі.

Ня тулілася сэрца ніколі
Да тае, што з памадаю губы.
Уцякаў бы, спаткаўшыся ў полі,
Як ад нейкае страшнае згубы.

Я люблю, калі ў ліпені сонца
На губах ёй паложыць закальцы,
Калі фарбаю—ніва бясконца...
А жнівом і сярпом пахнуць пальцы.



Пэтрарка

# СОНЭТ

(з італьянскай)

Стварэньняў вельмі многа ёсьць на сьвеце,
Што зносяць лёгка сонца гарачынь;
Другія днём кладуцца на спачын,
Выходзяць калі сонца ўжо ня сьвеціць;
А трэція ў праменістыя сеці
Лятуць, каб грудзі бляскам аблягчыць
І колюцца аб жаркія мячы.
Ўсьлед за апошнімі мой зірк нясецца.

Яго прывабіла яскравасьць Донны—
Заслонаў не паставіў я нідзе,
У цемру ночы думкі не апалі;
Уперад лёс нястрымана вядзе
Імкненьне воч асьлепшых, безбаронных
Да тэй, што іх агнём сваім апаліць.

*Пераклад Ю. Гаўрука*



Шыльлер

# АНТЫЧНЫЯ МЭТРЫ

(з нямецкай)

## КРЫНІЦА МАЛАДОСЬЦІ

Верце мне, маладосьці крыніца ня байка, струменіць
Дзейсна і вечна. Спытаеце дзе? У творчым мастацтве.

## ПРЫГАЖЭЙШАЯ ЗЬЯВА

Калі ня бачыў ты харастве у момант пакуты,
Хараства ты ня бачыў ніколі;
Калі ты ня бачыў вясельля на твары прыгожым,
Ты вясельля ніколі ня бачыў.

## ІЛІАДА

Вечна рвуць Гомэраў вянок і адшукваюць продкаў
Непараўнанага гэтага твору!
Матку адну толькі мае, воблік тэй маткі—
Твой несьмяротны воблік прырода.

## ГЭНІ З НАХІЛЕНАЙ ДОЛУ ПАХОДНЯЙ *)

Статным на погляд здаецца з патушанаю паходняй,
Але, панове, ня так сьмерць прыгожа, як ён.

## ЧАКАНЬНІ І ВЫНІКІ

На акіян выплывае юнак пад тысячай мачтаў,
К прыстані ў чоўне ліхім ціха вяслуе стары.

## КОЛУМБ

Сьмела ўпярод, плавец! Хай сьмяюцца разумныя надта;
Хай слабее парой у рулявога рука.

## ДРУГ І ВОРАГ

Дораг мне заўжды друг, але й вораг таксама карысен:
Друг пакажа, што ёсьць, вораг—чаго няма.

---

Гётэ.

## ДВОХ Я БАЧУ

Двох я бачу! Вялікіх! Я бачу вялікшых! Абое
З сілай варожай гнятуць, душаць адзін аднаго.
Тут зямля і скалы, а там вунь скалы і хвалі!
Хто з іх болей вялік?—паркі **) дадуць адказ.

## АРАТАМУ

Роўна і лёгка крые зямля залацістае зерня.
Любы! пакрые глыбей прах твой урэшце яна.
Радасна сей і ары! Праб'ецца жывое насеньне,
А на магіле тваёй будзе надзея сьвяціць.

*Пераклад Ю. Гаўрука*

---

*) гэні в нахіленай долу паходняй сымболізуе сьмерць.

**) паркі сымболізуюць лёс.

Юрка Гаўрук

# ГРУГАН.

Тонкімі голкамі папраколвала сумаразь рэдкія бярозы, ад белага цяжару нізка нізка пахілілася вецьце, аж да самага сьнежнага насьцілу.

Кусты лазьняку каля гаці стаялі, нібы шкляныя, няўдала падкінуўшы свае буялыя доўгія пруткі, і стылі.

За горадам пачыналася ціхае раньне.

Сонца, убачыўшы чыстату зямлі, убачыўшы крохкую празрыстасьць паветра, марудзіла ўзыходзіць.

Неба прапала, разарвалася на кавалкі і распаўзлося па полі, па рэчцы, па сенажацях, па дальнім лесе, па сялібах, радуючыся, што можна ўрэшце, хоць на хвіліну, кінуць сваю пастаянную варту, перадыхнуць чуць-чуць, пазнаёміцца бліжэй са сьветам, на каторы асудзіў яго лёс глядзець толькі зьверху.

Тонкія голкі сумаразі падалі на вусны, прабівалі грудзі, засьцілалі нутро крыштальным бляскам холаду, рабілі подых нячутным і лёгкім.

Маўчала жывое.

Здавалася, што прырода сьвяткуе урачыстасьць свайго панаваньня, бо з усёю пышнасьцю паказвала багатыя аздобы свайго убору.

Ад белых фрэнзьляў нізка нізка хілілася вецьце.

Сьнежны насьціл карэў і пакорна туліўся, прыгнечаны яе гордаю постацьцю.

У рове, за платамі апошніх гарадзкіх хатак, пры самай дарозе трапыхалася нешта, трапыхалася ў корчах і бязупынна; напружана высьцілаючыся, тапырачыся, яно хутка адскаквала ад гладкага дна рова і падала на цьвёрды сьнег сьціснутым чорным камяком.

Гэта быў груган, вялікі, густа чорны, з жоўта—белаю струпаватаю дзюбаю.

Ці то старасьць загнала яго сюды ў пусты, далёкі роў, ці то голад, ці можа бадзячая куля лясьніка, стрэліўшага на пацеху ў адзінокую птушку, невядома, адно толькі было вядома—паміраў груган.

Упарта адкідаў ён галаву назад за сьпіну, выгінаўся дугою, скручваў пярсьцёнкамі свае шэрыя кіпці, нацягваў павекі на бліскучыя вочы, а тыя ўсё расплюшчваліся і з балючаю, няпрытомнаю мукай вылазілі наверх на павекі, камяніліся там круглымі шліфованымі дыямэнтамі.

Ня бачыў нічога каля сябе груган, уся яго істота ўзьнялася ў чорным камяку яго цела, змаганьне гэтае істоты шукала выйсьця праз яго прадонныя вочы.

Ён не даваўся сьмерці, зьбіраў апошнюю цяплыню свайго сэрца, рухам сваіх мускулаў хацеў адагрэць жыцьцё, біўся шалёна на цьвёрдым сьнезе рова, бы хацеў разарваць гэты сьнег, прылажыць сваю безбаронную галаў да зямлі, захавацца ў яе нетрах.

Яго сьмяротная мука прабівала грудзі, засьцілала нутро крыштальным агнём холаду, супыньвала подых, тонкімі голкамі калола прыдарожныя дрэвы, шукаючы, але ня просячы ратунку.

Сонца ня ўзыходзіла, бо не хацела, каб цягнулася ўсьлед хэўра: каб прачнуўся вецер, каб паўставалі хмары, каб прыбеглі людзі.

Неба рассыпалася па полі і сенажацях, аглядала зямлю, але ня бачыла змаганьня жывое чистоты.

Груган заметна слабеў.

Яго адчайны зірк кідаўся ўгору радзей і радзей, павекі маглі ледзь напалову заслаць яго вочы і бясьсільна апускаліся вялымі плеўкамі. Раздутае пер'е сышлося, прысталі да цела крыльлі, груган зьменшыўся, стаў вострым.

Галава схілілася набок, квола падрыгваючы, яшчэ мацней сьціснулася дзюба, нібы гэтым апошнім усілам груган мог утрымаць сваё самае дарагое, самае лепшае, што шырака падкацілася цяпер і раздувала яго горла.

Кіпці зьвіліся ў два маленькія вузельчыкі і ўжо не раскручваліся.

Груган канаў.

Чуўся слабы трэск, гэта патрэскавалі яго косьці, праз каторыя выходзіла жыцьцё.

А скарэй за ўсё, гэта трашчалі марозьлівыя голкі, ад якіх у горле набраквала паветра і сьціскалася ў нешта моцнае, нязвычайнае, нікому не вядомае, але патрэбнае і сур'ёзнае.

Раптам за рэчкай пырснула сонца, голасна ўскочылі вясёлыя праменчыкі, зазванілі ў белыя фрэнзлі дрэў і асьвяцілі іх золатам сваю радасьці.

Сьнежны насьціл загарэўся брыльлянцістаю коўдраю.

Каля сонца паказаўся блакітны кавалак неба, яно сьпяшалася заняць сваё прывычнае месца, каб зьверху наглядаць за зямлёю па загаду вялікага лёсу.

Але груган ужо не варушыўся.

Дарэмна чырвонымі іскрачкамі запальвала сонца дно рова, дарэмна глянцавала цяпер яго чорнае пер'е, заглядалася ў яго мутныя вочы.

Тонкія голкі сумарзі пачалі аздабляць сваёю крохкаю, вузорнаю крыштальнасьцю чаканнае цела гругана, пачалі гафтаваць яму белую сарочку нябожчыка.

Прырода сьвяткавала свой шлюб.



**В. Каваль.**

# ПРА ВЁСКУ.

Вёска!
пра цябе й песьня
не маўчыць крывымі загонамі.
І напеў малады так і пеніцца,
так і гоніцца
ў даль разгонную.
Раней вёска сьпявала
ад жалю, па цёмных завулках...
А цяпер—
магутным шквалам
сьцелецца песьня гулкая.
Ну, ці нам—маладым,
калі ногі згібаюцца,—плакаць?
Не разьеў яшчэ вочы дым,
яшчэ ў сэрцы
моцны ляскат.
Хоць крывыя стрэхі жалкуюць,
хоць і плачуць часам заваліны,
мы—
над старым агнявое будуем,
мы—
Электрыкай сэрца запалім!.

В. Каваль.

# ЛЕГЭНДА.

* * *

Па вясковых завулках ходзіць ня казка, ня псальма, а легэнды,— аб тым, як склалася песьня.

Старыя людзі з пасівелымі думкамі кажуць так:

— Сьвятая праўда!

* * *

Жылі калісь людзі—замораныя, прыцiснутыя. На плячох насілі зрэб'е, а пад ім білася крывёю мяцежнае сэрца.

Працавалі яны—да поту, да скону, і—уміралі на каханай зямлі. Ня ставілі на могілках, як у нас, крыжоў—знакаў пакуты, а насыпалі ў стэпу курганы. Зарасталі курганы краскамі мурожнымі. А вецер стэповы раніцай з-за чорна-чорных гор пеў кургана-хаўтурную песьню.

Слухалі людзі,—а песьняў ня ведалі...

Каля сутарэньняў людзей плёскалася мора, а з боку — слаліся імшары.

Ласкава-вясёлае, сьмяшліва—сіняе, як сьветлая дарога жыцьця— бясконцным абрусам слалася яно.

А часам было лютае, трывожнае, як думкі злодзея. Тады яно гнала чалавека, узьнімала ў грудзёх абурэньні—хвалі ..

Так было...

Маладыя кахаліся чорнымі вечарамі пры ўсплёсках мора, душа некуды ірвалася далёка—у той стэп, і няслася з ветрам. І простаму сэрцу хацелася расказаць другім аб шчасьці, выліць гэта другому паслухмянаму сэрцу.

А песьні ня ведалі...

Таму й жылі так бязрадасна, бо не маглі зьліць накіп душы ў нешта прасторнае і неабдымнае.

* * *

Малады пастух Янка пасьвіў сгатак ля мора.

Вабіла яно свайго сябра... І з гэтага берагу сьмяялася яму чаротамі і трысьцём.

Многа раз гаманіў ён з Морам. А яно было такое прыгожае, бунтоўнае, ласкавае, як раньні пацалунак пастушкі Ганны, што паліў агнем маладым.

Казаў:

— Эх, мора!.. Люблю цябе бясконца...

Казаў, і любіў проста, як умеў.

А аднойчы здарылася нешта нязвычайнае: выплыла з ціха—сіняга мора дзяўчына-красуня. Марскою царыцай здавалася яна. Бліскучае хітрае сонца грала ў яе васільковых вачох, а на грудзёх блішчэлі дыямэнты...

Тады яна запела.

А пастух-Янка—у зрэб'ях—стаяў зачарованы. Ніколі ён ня чуў гэтага.

Песьня-ж была простая — праменнымі сьцежкамі струменіла да сінеючага неба, цалавала мора, зямлю, прастор.

А песьня была —

пра сінь, пра каханьне, працу й барацьбу.

І яшчэ больш закахаў Янка мора і песьні. А марская красуня яшчэ больш іх пела.

Зрэзаў на ўзвышшы Янка трысьцё і зрабіў сабе жалейку. Самі песьні лезьлі ў галаву, а сэрца дудара пылала жарам...

Пеў:

Слухайце, песьню ў грудзёх:
Яна скажа вам быль...
Мы грамадою пайдзём—
Сьлёзы дарэмна ня выльлем.

І навучыўся ён так многа песьняў.

Людзі-ж зьбіраліся й слухалі. Песьняю хваляваў думкі. Думкі казалі пра жыцьцё, гналі на барацьбу, уперад.

А пасьля гэтага Янка ня быў пастухом, а пеў на сваёй жалейцы афарбоўваў жыцьцё другіх у краскі.

Адгэтуль і пачалася песьня.

Цяпер людзі жылі ня так. Зналі песьні—вылівала сэрца. Быў смутак на сэрцы—агортвала яго вясёлая песьня. Быў вясёлым чалавек — апавядаў у песьні пра сьвята і шчасьце жыцьця...

— Сьвятая праўда.

Так кажуць.

Так было.

* * *

... Я ляжаў у лесе каля вогнішча і глядзеў на зорна-бліскучае неба.

Трашчэў агонь—тлелі думкі.

Вячэрні змрок з туманам даўно падняўся з-па-над вёскі. А адтуль нясласа песьня—шырокая, неабдымная, як гэта неба.

Тады неяк раптоўна—рытмічна ўспомнілася вясковая „праўда“ аб тым, як склалася песьня.

6/IV 26 г. с. САВА.

Кляшторны.

# УЗДЫБЛЕНЫЯ ДНІ.

У поўнач сінюю,
ў кудзелю тумаоў
Сабачы гоман вёска раскідала,
Калі на брук шумлівых гарадоў
Мяне, як мачыха, нядоля выганяла.
Калі на гонях я пакінуў плуг
І ў думках перакінуў вобраз Талі,
ну быццам тысяча прахожых валацуг
Маю душу-асіну разьдзіралі...
Я нёс журбы акамянелы жвір,
Каб ў песьнях выплісьнуць на пустыры плянэты
Маёй душы нявыплаканы вір
З запалай буйнаю мужыцкага паэты.
Кудысь—ці дзён раскілзаная плынь
На чорных вуліцах у лямансе зьнікала,
А ў сэрцы погань брудную—палын
Жыцьцё бязьлітасна расьціла-гадавала...
Вулканілась жыцьцё на рубяжы вякоў,
Запалай нашаю вякі гарэлі,
У злосьці дзён я вылюбіў любоў,
Згубіў мінулае ў выхурыстай кадрылі....

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Другія дні на сэрцы б'юць трашчоткай,
Зіяе раніцца пад колер серабра;
Я сум стаптаў, як старыя падмёткі,
І чорнабыльлем выцьвела журба.
Гэй, песьні радасьці, мужыцкага паэты,
(Які нядаўна так на гонях кінуў плуг)
Журчыце новае лунаючы па сьвету,
Як нашых дзён няўстрыманы зух.



Кляшторны.

# РАЗВАЖАНЬНІ.

Ці не затым душа так ные
І рвецца жаўранкам у просінь тумаНоў,
Што праваю нагой тапчу я нівы,
А левай брук шумлівых гарадоў.
Як зловіць зірк мурог узрыты
І вольную слату авечак—хмар,
Дык захлынуўся-б радасьцю блакітнай
Бясконца піў-бы сонечны угар.
Зірне вясна,
          З муроў павее сьцюжай,
А ў сэрцы ўздым к бязьмежжу ня стрымаць.
Узяў-бы кій,
          Пашоў-бы валацужыць,
Каб сум згубіць ў саломеных страхах.
Узяў-бы кій
          І патануў-бы ў просінь
Напіцца харaства кілішкамі зарніц.
Такі мой лёс,
          Такая мусіць постаць,
Каб вечна посахам плянэту скарадзіць....
Галіны мілыя, сумуючага гаю,
Часамі хочацца мне з вамі сумаваць,
Бо тое, што я сёньня апяваю,
Ніхто ня будзе заўтра апяваць.
Дзе ў люстра вод глядзеліся зарніцы
І плакаў ў змрок над рэчкай салавей,
Там будуць фабрыкі жалезным рытмам
Расстрэліваць ідылію палей.....
Часамі хочацца з запалам мне дынаміць,
У тысячу гудкоў у просінь рагатаць,
І ухадзячае разрыць і разухабіць,
Паднукваючы дзён раськілзаную раць.
За днямі дні ў прадоньне адлятаюць,
Равуць гудкі і плача салавей,
Ці не затым і сэрца так сьціскае,
Што хочацца к чамусь прыехаць найхутчэй...
Галіны мілыя, сумуючага гаю,
часамі хочацца мне з вамі сумаваць,
Бо тое, што я сёньня апяваю,
Ніхто ня будзе заўтра апяваць.

В. Сташэўскі.

## ВЯСНОВАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ.

Дзе плужком сёньня пішуцца строчкі
І лістаюцца гонямі кніжкі,
Я там зрэбную бачу сарочку
І паклон пасылаю свой нізкі.

Сёньня нешта й мяне туды звала,
Скакануць .бы здаецца з разгону,
Ды схапіць свой плужок, як бывала
Й баразною пісаць па загонах.

І пасеяць зярняткамі словы,
Бараною пакласьці узоры,
Каб прыгожа, квяціста ўзрасло
На гары, на лагчынцы й разоры.

Ой, ты поле—вялікая кніжка
А ратай, ты—поэта, гусьляр
Прад табою схіляецца нізка
Малады твой сабрат і песьняр.

А. Вечар.

# ПЕСЬНЯ ПРА МАЛАЦЬБУ

У гумне малады гаспадар
Малаціў рад снапоў зярнёвых.
Стальлю, стальлю зьвінеў удар,
Звоны гэтыя—песьні аснова.
Думкай сьветлаю, бы прамень,
Песьню ткацьму у такт з малацьбою.
Буду пець, як бярэ струмень
Жыцьця новага моладзь з бою,
Як яна, нашых дзён барацьбіт,
Творыць шчасьце з адвагай вялікай
І чаму малады малацьбіт,
Сябра гэтай сям'і многалікай,
Бо з тэй нівы, з якое бацькі
Аж апошнія выцяглі сокі,
Ураджай атрымаў ён такі,
Што снапы калаціў на тры бокі,
На таку красаваўся капец
Залацістага, чыстага збожжа.
Яшчэ досьвіткі ўстаў хлапец,
Малаціць аж да змроку зможа.
І, як толькі па снопе вітне,
Разьляталіся зернят жмені;
У гумне нясло пахам жытнім,
Ішоў водгук на прыгуменьні.
І спускаючы цэп з-за вуха,
Пацешаўся юнацкі дух,
Цэп то жудасна гуў, то бухаў,
То сумліва ўздыхаў: вух! вух!
І здавалася, што ўздыхаць
Скора цэп зьнемажэ, пакіне,
Што ён пойдзе кудысь аддыхаць,
І свой біч у адбочча адкіне.
Ужо ня ўздыхі баёвую песьню
Завядзе малатарні рух,
З малатарняю цэпу цесна
І цэп цяжка ўздыхае: вух! вух!
Падлічы-ж селянін, дасягненьні
У магутнай сваёй малацьбе!
Скора гора зажмеш у жменю
І паправіш жыцьцё сабе!

А. Вечар.

## Я-ВЯСЕЛЫ...

Я вясёлы, але і ня гэтак,
Як другія, у нашым жыцьці.
Я вясёлы, што ведаю мэту
І дарогу якою ісьці.
Жыцьцярадасьці пеняцца хвалі,
Звоніць сэрца найвышэйшаю нотай:
„Рэвалюцыю не пахаваюць!“
Дык я знацца ня хочу з сумотай!
Можа злыдні памерці прымусяць,
Можа вырвуць з грудзей маіх сэрца,
Але я і тады усьміхнуся
У агідныя вочы сьмерці.

Саўка Міраж.

# ЛЁГКАЯ ПРАЦА.

Апавяданьне.

I

— Кідай Мікіта! Усёроўна сягоньня ня скончым.

Гэтыя словы сказаў старшы брат Мікіты Мікола, кончыўшы пракос. Ён палажыў касу і пашоў па сьвіткі, якія ляжалі недалёчка ад іх на капе сена.

— Ну й галовы-ж у нас! Самі абмоклі, а сьвіткі ‘шчэ больш; надта ўжо прыхільнымі, як відаць, мы сталі да працы.—Мікола з нейкай злосьцю кінуў мокрыя сьвіткі на зямлю, а сам пачаў вярнуць папяросу,

Тым часам шэрыя хмаркі, якія ад самага ранку зацягнулі наба больш і больш пачыналі згушчацца.

— Годзе, я табе кажу! Як не працуй, багацейшым не станеш,—у голасе Міколы чулася нездавальненьне.—Лепш скарэй надзявайся. Я табе кажу, кідай!—ужо зусім злосна зьвярнуўся Мікола да брата, калі той хацеў пачынаць новы пракос.

— Ты-ж курыш, а я пакуль...

— Ня нэрвіруй мяне...І так добрую плаху паклалі сягоньня.

І праўда. Браты стараліся, ды і старацца патрэбна было: у іх было дзесяцін чатыры сенакосу, а сям‘я складалася толькі з іх двох. К таму-ж жывуць на хутары, зямля мяжуецца з вясковай, а сенакос заходзіць нават у яе клінам. Умовы вымагаюць стараньня: няўпору скошанае сена будзе зьнесена нагамі скаціны.

Іншая справа была гадоў з сем таму назад. О, тады было зусім інакш! Тады ў іх было пяць валок зямлі. Ды й што казаць! Часы былі зусім іншыя. Перад імі здымалі шапкі...На іх працавалі за мізэрную плату.

Міколу было гадоў за трыццаць. Рослы, плячысты ён паходзіў на асілка. Мікіта гадоў на дзесяць быў маладзейшы. Мікола нават ня лічыў яго за роднага брата: паходзіў ён ад другой мацеры, вясковай жанчыны—мужычкі. Бацька, праўда, яе надта любіў за прыгажасьць, за ўменьне гаспадарыць, але Міколу яна не падабалася за прастату, за панебрацтва з мужыкамі. На гэтай глебе ў яго часта былі непаразуменьні з бацькам, асабліва, калі ён вучыўся ў кадэцкім корпусе. Даходзіла да таго, што Мікола ня раз парываў сувязь з бацькам, але безграшоўе прымушала мірыцца з ім. Апрача ўсяго Мікола баяўся згубіць насьледзтва. У гэты самы час Мікіта вучыўся дома ў спэцыяльна нанятага настаўніка. Матка надта любіла свайго сына і кожную вольную хвіліну ад кнігі, старалася быць з ім ды прывучала яго да гаспадарскае працы. Калі-ж іх зямлю абрэзалі, уладарнік яе памёр, яна адна з Мікітам абрабляла астачу. Цяжкая праца аднак скора падкасіла яе сілы яна назаўсёды расталася з каханым сынком, сказаўшы апошняе слова:

„ня стыдзіся Мікітка, працуй!“ І Мікіта шчыра выконваў завет мацеры. Яго зусім пепакоіла іх сучаснае становішча. Дзесь у глыбі сэрца ён адчуваў, што так і толькі так павінна быць. Другі раз заходзіў на сходы мясцовае ячэйкі, а прошлай зімой спробваў нават падаць заяву аб залічэньні сябрам яе. Яму адмовілі на некаторы час „як сыну непрацоўнага элямэнту“. Тады Мікіта цьвёрда й рашуча рашыў даказаць што ён такі, як і ўсе, што ён сын вёскі, працавіты земляроб. І ў той час, як Мікола хадзіў ды скардзіўся, Мікіта помніў словы мацеры ды шчыра працаваў.

У Мікіты не знаходзіла водгук і тое, што Мікола калісь быў афіцэрам. У часы бандытызму, калі Мікола прыймаў шчыры ўдзел у бандзе N, ён ні аднаго разу не дапамог брату. Апошні нават быў прымушан сілком забраць „на палітычныя справы“ хатняе золата, а брата зьвязаным пакінуць да раніцы, пакуль у такім стане не знайшлі яго суседзі. Некалькі разоў забіраў у яго Мікола газэты, палітычныя брашуры ды пакідаў свае, бандыцкія. Усе яны, праўда ,паліліся, але Мікіта протэставаў моўчкі. Рэлігійнасьць, пасеяная маткай, сазнаньне старшынства брата—яго заўсёды спыняла. „Пакруціць сьветам ды й сядзе...“ На апошнім Мікіта застанавіўся і чакаў, пакуль яго брат і дапраўды ня сеў у Менскім палітбюро. Толькі гэтай зімой зволіўся Мікола й то дзякуючы амністыі. Прышлося брацца за працу, хоць, праўда, брат яго аб гэтым і не прасіў. Пробаваў Мікола знайсьці й лягчэйшую працу. Хутка пасьля таго, як ён выйшаў з Іспраўдому, былі перавыбары коопэратыўнага т-ва ў іх с/с. Усімі сіламі стараўся Мікола пралезьці ў праўленьне коопэратыву, але сялянства не даверыла. Месца старшыні заняў камсамолец. Мікола прымушан быў узяцца за касу.

— Ты кінеш, ці не! Паўтарыў Мікола, калі Мікіта прымайстраваўся мянтажыць.

— Праўду ты кажаш—трэба кідаць. Надзьвігаецца вялікая хмара мо' хоць да лесу дойдзем.

З паўвярсты на перадзе па іх дарозе стаяў яловы лес. Яго гальлё гнуліся ад набягаўшага ветру, быццам кланяліся братом ды запрашалі іх пад свой зялёны зонд.

Браты колькі хвілін шлі моўчкі. Першы парушыў маўчаньне Мікіта.

— Ты ўсё скардзішся, Мікола! Мне здаецца ўжо пара прымірыцца, тым больш, што мы ня так ужо пакрыўджаны.

— Ня так пакрыўджаны!—Перадражніў яго Мікола:—трэба-б было яшчэ пачуць ад цябе, што нас бальшавікі зусім задаволілі.—І ціха дадаў пра сябе:—Эх, мужыцкая кроў.—Крыху памаўчаўшы дадаў: ты, Мікіта далей свайго носу ня бачыш. Ты згубіў гонар нашага бацькі, згаджаешся з усім, што табе падносіць улада бальшавікоў. Зразумей, ці магчыма гэта: дваранін працуй...

— Усе павінны працаваць.

— Не перабівай, а паслухай! Дваранін працуй; сьвінапас кіруе дзяржавай, сьвінапасы вучацца ў унівэрсытэце. А калі там былі дзеці заможных або папоў—іх вычысьцілі.

— І добра зрабілі. Калі вораг, дык і гані.

— А што-ж? Яны, па твойму, павінны былі пагадзіцца? Ты думаеш я стаў-бы шчырым прыхільнікам компартыі, каб быў у вунівэрсытэце? Няхай прабачаюць!

— Твая несьвядомасьць!

— Добра, што ты ўжо стаў надта сьвядомым. Ці ня Ігнатаў студэнт (гэта слова Мікола вымавіў з іроніяй) нагнаў на цябе гэткую сьвядомасьць. Цікава-б было прагледзіць калі небудзь яго лісты з Менску да цябе.

— Можаш быць пэўнен! Гэта табе ня ўдасца.

Між тым на перадзе ўжо засівіў дождж. Хва́ля ветру прама ўдарыла ў твар—хмара надышла.

Браты трушком дабеглі да лесу.

— Хлопцы сюды! Тут як у хаце!—Пачулі яны голас. Пад адным з дрэв стаяў студэнт, аб якім толькі што была гутарка.

— Вы таксама касілі, Ігнаціч?—спытаўся Мікола, падаючы руку студэнту.

Студэнт паказаў на касу, якая тут жа вісела на дрэве:

— Як бачыце.

— Ды й дождж! Як з вядра льле. Зранку здавалася, што так ужо хмурна будзе цэлы дзень; дождж будзе пыліць, як гэта зазвычай бывае; аж аказалася...—Міколу спыніў студэнт.

— Заходні вецер...Што ж дзіўнага...

Крыху памаўчалі. Потым гутарка зашла аб сенакосе, аб ураджаю й наогул аб сельскай гаспадарцы. Нарэшце закранулі пытаньне аб коопэрацыі і прыватным гандлю. Апошнім пытаньнем Мікола асабліва зацікавіўся.

Заўважыўшы бязьмерную зацікаўленасьць Міколы гандлем, студэнт нарэшце спытаўся:

— Ці ня думаеце вы самі займацца гандлем?

— Што вы?—нібы спужаўшыся, адказаў Мікола.—Для гэтага патрэбны грошы: мала, мала-рублёў пяцьсот. А вы самі ведаеце, які ў мяне капітал.

Студэнт ухмыліўся.

— Ну, пойдзем сябры.

Хмара даўно ўжо праімчалася.

II.

Мікола будаваў сабе плян гандлёвае працы. У суседняй вёсцы ён адчыняе краму. У ёй ёсьць усе неабходныя тавары. Яна біткам набіта людзьмі — ён не спраўляецца важыць, адразаць. Яму дапамагае Мікіта.

Але й двом ня справіцца. Бярэ прыказчыка. Цераз год, а можа й меней, адчыняе некалькі крам па другіх вёсках і ўсе на галоўных пунктах. Коопэратывы закрываюцца: яны бясьсільны конкурыраваць з Хацэвічам. Уся акруга пачынае аб ім ведаць: у яго можна будзе ўсё куды таньней купіць, бо большая частка тавараў будзе дастаўляцца контрабандай. Яго ўсюды паважаюць. Нават савецкія чыноўнікі (так Мікола называў савецкіх служачых) будуць мець за гонар пасядзець з ім за адным сталом. Ад гэткіх салодкіх думак Мікола павесялеў.

Шчыра працаваў усё лета. На полі засталася толькі бульба. Выкапаць яе Мікола даручыў аднаму Мікіту, а сам рашыў дзейнічаць. З сабранага ўраджаю ён зьбярог ужо рублёў з паўсотні. Мала, але ён яшчэ атрымае крэдыт, мо дзе пазычыць, а мо... Шмат ёсьць спосабаў дастаць грошы, толькі трэба ўмела рабіць усё шыта-крыта. Ды ў яго яшчэ знойдзецца рублёў з дваццаць золата. Трэба абмяняць на савецкія.

З гэтай мэтай і з мэтай атрымаць крэдыт Мікола паехаў у Менск. І там з выглядам дзелавога чалавека, накіраваўся ў фінаддзел. Там, ля ваконца, дзе мянялі грошы, стаяла чалавек дзесяць. Мікола заняў чаргу.

— Вы што мяняеце? — спытаўся касір, падыйшоўшага па чарзе апранутага ў амэрыканскае адзеньне, чалавека.

— Доляры. 500.

— Атрымайце тысячу. У Міколы дрож прабегла па целу ад гэтых слоў. Яму-б зараз гэтыя грошы! Яго плян напэўна-б тады быў выканан. Міжвольна Мікола ня мог адвесьці вачэй ад незнаёмца. Той ужо выходзіў. Неўзаметкі для сябе Мікола адышоў ад чаргі і накіраваўся ўсьлед за незнаёмцам. Незнаёмец павярнуў у сталоўку. Ці не зайсьці й яму?

Зайшоў. Незнаёмы папрасіў абед. Мікола прымайстраваўся за адным з ім столікам. Міколу здавалася, што ёсьць нешта знаёмае ў твары гэтага чалавека. Пачаў прыпамінаць. Вясной у раённым горадзе быў конскі кірмаш. Гэты чалавек таргаваў у яго каня. Яны ня сыйшліся на цану — той абазваў яго шкурадзёрам. „Ды гэта-ж Сымонаў Юзік з Мураўкі“, радасна пра сябе выклікнуў Мікола. Пасьля таго выпадку, яны, праўда, не сустракаліся, хоць Мураўка і знаходзілася ў чатырох вярстах ад хутара Хацэвічаў. Толькі гэта глупства. Зараз можна, нават трэба, з ім пазнаёміцца бліжэй.

— Выбачайце! Вы ня з Мураўкі?

— Так. А скуль вы мяне ведаеце?

Вы Сымонаў сын?! Ну, як жа... ваш бацька з маім трымаў моцную сувязь. Будзем знаёмы: я Хацэвіч!

— А, Хацэвіч! па якіх справах?

— Справы... Гаспадарка... тое-сёе... на месцы дарага. Пару піва —зьвярнуўся Мікола да афіцыянта.

— Я больш шклянкі ня п'ю.

— Нічога, як небудзь здолеем.

Абед прашоў у размовах. Мікола быў надта прыхільным да Юзіка Распытваўся пра Амэрыку, расказваў сам. І, як відаць, спадабаўся Юзіку: Юзік прыехаў на кані і прапанаваў ехаць з ім Міколу, на што той з ахвотаю згадзіўся.

III.

Лёгка тарарахкала каламажка сваімі жалезнымі восямі, парушаючы часам чароўную ціш лесу.

— Уласна кажучы, я не разумею вашае мэты, Мікалай Зотавіч. Вы казалі, што вам патрэбна нешта купіць, а вы нічога не вязіцё.

Мікола не адразу адказаў на запытаньне Юзіка. Ён ехаў з сапсаваным настроем. Пасьля сталоўкі ніводная справа не ўдалася. Золата ён, праўда, абмяніў. Галоўнае з крэдытам. Зусім нічога не зрабіў ды яшчэ й зараз сэрца не на месцы. З галавы ніяк ня выходзілі словы савецкага служачага: „Ваша месца жыцельства, сельсавет, раён“. На вошта гэта ім было патрэбна? Ну ня можна атрымаць крэдыт, сказалі-б ня можна. А то... „Ох, гэты бальшавіцкі рэжым“.

— Адна хвароба, — адказаў пасьля Мікола, — рашыў ня купляць. Наш Іцка даставіць дзешавей. А скажэце, Юзік Сымонавіч, навошта вам так многа грошай патрэбна адразу? Вы не палохаецеся, што ў вас іх могуць адабраць ды йшчэ можа разлучыць з жыцьцём?

— Нікольки. Я купіў дом, знадворныя будынкі, трэба разьлічыцца. А ад разбойнікаў у мяне ёсьць добрыя сродкі. Апрача таго, ніхто ня ведае, за якімі справамі я езьдзіў да Менску. Хіба можа вы...—усьміхаючыся дадаў Юзік.

Мікола маўчаў. Думка пачала працаваць у вадным напрамку. Грошы. Дзе ўзяць? Можа пазычыць Юзік? Трэба спытацца. Угаварыць бы яго разам узяцца за гэтую справу? Ня выгадна: маючы капітал, ён захавае за сабой аўтарытэт і пашану насельніцтва. А ўсё павінна належыць яму і толькі яму аднаму.

— Юзік Сымонавіч! Я хацеў-бы зьвярнуцца да вас з аднэй...

І замаўчаў.

— Што? Калі ласка кажэце!

— Э, так, глупства.

Раптам у Міколы выбухнуў іншы плян. Пазычыць, дык, у крайнім выпадку, праз паўгода трэба зьвярнуць. А яму патрэбен зварот. Яму трэба праз год паказаць, хто ён: ён не зямляроб. Ён зможа ня толькі чорнай працай займацца... Адным словам пазычыць не магчыма. Трэба так як небудзь... дасачыць яго сховы... Далей ён ужо зможа. Яму прыпомніўся яскравы малюнак налёту на мястэчка, якім кіраваў ён. Усе вузялкі знайшлі, усё забралі. Каб мог хто тады з іх знаць, што ўлада бальшавікоў ня лопне? Не пакутваў бы ён зараз без-

грашоўем. А мо' зараз-жа паправіць сваю памылку? Яго правая рука міжвольна сьціскала ў кішэні леварвэр. Паглядзеў на Юзіка. Той спакойна сядзеў, углядаўся на месяц ды нешта думаў. Вось так... адзін момант і... зацягнуў у кусты, каня пусьціў, а самому праз лес зьявіцца да дому, быццам з чугункі. А знаць? Вядома, ніхто знаць ня будзе. Але-ж знаёмы Юзіка, у якога той стаўляў каня ў Менску, бачыў, што яны паехалі ўдвох. Міколу страсянула. Не, так небясьпечна. Ён яшчэ раз паглядзеў на Юзіка, на яго спакойны твар. Няўжо ён заб'е гэтага чалавека, добрага прыхільнага. Не... Ня біць, а так як небудзь емка зрабіць, як гэта калісь бывала ў войску. Абакраў касу, а ў Сібір пашоў вартаўнік. Усе начальства крала, чаму было ня ўкрасьці яму? Мікола нават усьмяхнуўся ад здавальненьня сваёй „дзелавітасьцю“ ў мінулым. „Спраўлюся й тут. Намечаны плян выканаю! Ня будзь я Хацэвіч, калі гэтага ня зраблю. Грошы дастану і ўсё будзе шыта-крыта“. Ад самаздавальненьня ён нават пацёр рукі, дадаўшы:

— Халадновата, чорт яго забяры!

## IV.

Зьмяркалася. Мікола нэрвова хадзіў па пакою. Час ад часу пазіраў у вакно не выпускаючы з рук гадзіньніка. Сягоньня рашучы момант. У 12 гадзін ночы ён павінен накіравацца ў Мураўку. З Юзікам яны сьсябраваліся. Дзякуючы гэтаму ён добра ўжо азнаёміўся з яго пакоем, нават ведае, дзе павінны ляжаць грошы. Справа бязумоўна ўдалася.

Ціхонька, на цыпачках прабраўся ў пакой брата, прыслухаўся. Сьпіць. Узяў дзьверы на ключ. З кішэні дастаў кручок, спэцыяльна прыгатаваны для адмычак, агледзіў. З-пад сяньніка дастаў леварвэр агледзіў зарады. Страляць ён ня будзе, але так на ўсякі выпадак трэба.

Выняў з сундучка маску—прымераў і толькі сам сабе зазначыў, „добра“. Адмычку й леварвэр паклаў у кішэню, маску зноў схаваў у сундучок.

— Як марудна цягнецца час! Мікола паглядзеў на гадзіньнік. Дзесяць.

З-пад вёскі несьліся сьпевы: ехалі начлежнікі. Мікола рашыў пайсьці раней. Перад тым, як накіравацца зусім, ён вышаў на двор агледзіць, каб каго часам не занесла к хутару.

Выйшаў. У напрамку да хутара нехта ехаў. Вось пад'яжджаюць к варотам. Тры фігуры. Стукаюць. „Вось няшчасьце!“ падумаў Мікола і пашоў адчыняць. На возе сядзела два міліцыянэры і старшыня с/с. Кроў ударыла ў твар Міколу. „Няўжо гэтым гадам вядомы нават яго думкі!?“ На ўсякі выпадак, адчыняючы вароты, кінуў пад частакол у крапіву леварвэр.

— Мікола Хацэвіч дома?

— Я сам ён.—Мікола стрымліваўся, але скрозь яго голас была чутна перапалоханасьць.

— Дык, калі ласка, вядзеце нас да пакою! Зайшлі. Мікола запаліў лямпу. Адзін з міліцыянэраў дастаў паперку.

«Зараз жа па атрыманьні гэткае, зрабіць вобыск у Міколы Зотавіча Хацэвіча (месца жыцельства)... калі знойдуцца рэчы гандлю, спытаць патэнт, а калі гэткага ня будзе забраць рэчы і скласьці адпаведны акт. Подпісы.»

Міколу стала крыху лягчэй.

— Не разумею, зачым гэта ўсё. Ніякім гандлем я нават ня думаў займацца.

— Прабачайце! Гэта ня наша справа. Нам дан загад, мы павінны яго выканаць. Адчыняйце шафу!

Устаў Мікіта. „Зноў нешта натварыў!“ Мікіта паглядзеў на Міколу.

Першы пакой агледзілі. І толькі зараз Мікола ўспомніў пра маску. Зяваць некалі. Неўзаметкі хацеў адыйсьці.

— Ні з месца! Мы ня прыехалі рабаваць; хаваць нечага.

— Я хацеў запаліць другую лямпу.

— Дзякуем! абойдземся з аднэй.

Зайшлі ў пакой Міколы.

— Адчынеце гэты сундучок!

Мікола марудзіў.

— Не палохайцеся! калі ёсьць грошы, дык будуць цэлы.

Мікола стаяў нярухомы.

— Апошні раз кажу вам: адчыняйце!

„Папаўся, зусім папаўся“. Нібы далёкі водгук нясьліся думкі ў галаве Міколы: „Леварвэр бы зараз! усёроўна гінуць—або я, або яны“! Паглядзеў на наганы ў руках міліцыянэраў.

— Ад гэтага сундучка згублены ключ.

— Калі вы хочаце насільля—аднеквайцеся!

— Я кажу праўду. Я толькі магу ўзламаць. Дазвольце схадзіць за тапаром!

— Дзе тапор?

— На кухні пад лаўкай.

— Т. Старшыня! схадзеце, вазьмеце!

— Узьламеце!

У сундучку было адзеньне. На версе ўсіх рэчаў ляжала чорная маска.

Мікола жахнуўся, хоць і быў падгатаваны да гэтага.

— Ні з месца! Рукі ўверх!

Дулы леварвэраў накіраваліся на братоў.

— Агледзьце кішэні, т. старшыня! Так, кручок-адмычка!

— Добрым гандлем вы займаецеся, Мікола Зотавіч, як відаць. Апусьцеце рукі, вы заарыштаваны.—А вам, малады чалавек, зьвярнуўся той жа міліцыянэр да Мікіты: —прыдзецца пайсьці накінуць верхняе адзеньне на сябе.

— Вы ня маеце права мяне заарыштаваць!, задыхаючыся пачаў Мікола: — Гэтая маска зн... знойдзена ў... у лесе...

— З гэтым разьбяруцца так, як трэба. Спадзяюся, што вы ня будзеце пакрыўджаны. А зараз прашу йсьці.

V.

Браты ехалі на адным возе з міліцыянэрамі: іх заарыштаваных везьлі ў раённы горад. Мікола маўкліва пазіраў на зоркі. Перад ім усплыў дваццаць першы год,—рабункі, забойствы камуністых, комсамольцаў. Аднаго разу дома, калі ён спаў, яго заарыштавалі. Па дарозе ён уцёк. „Няўжо зноў турма“! Шорах прабягаў па целу. Не! Трэба нешта прыдумаць. Ні за што ў РВК! Так зрабіць, як тады. Вось скора пачнецца й тая дарога; абапал густы хмызьняк. „Адзін міг—і прашчайце чырвоныя маскі“! Паглядзеў на міліцыянэраў. Яны бадзёра сядзелі ў задку, трымаючы ў руках наганы. „Трымайце!.. пабачым хто каго перахітрыць. Ня ў гэткіх руках быў“. Мікола зяўнуў, пацягнуўся; неўзаметкі перавесіў правую нагу цераз біліну калёс. Левай рукой апіраўся ў дно. Правай моцна трымаўся за біліну.

Пачаўся хмызьняк. Дарога зусім зьвузілася. „Раз“! у думках даў першы сыгнал сабе Мікола. „Два“! Конь бег трусцою. У перадку з другога боку драмаў Мікіта. Ля аго сядзеў возчык, што раз цмокаючы, панукаючы каня. „Тры“! Усёй постацьцю свае вялізарнае фігуры шухнуўся Мікола з калёс. Раптам залп выстралаў аглушыў лес. Удалі адгукнулася рэха—„стой“. Але Мікола не стаяў. Хмызьняк захаваў яго ад выстралаў. Нават не паранены, успацелы бег ён у глыб лесу, не застанаўліваючыся, не аглядаючыся назад. За ім гнаўся міліцыянэр. Калі выстралы не дапамаглі, ён крыкнуў свайму калегу „прыглядзі за гэтым“, а сам зьнік усьлед за Міколам.

Знойдзеная ў кішэні Міколы адмычка навяла яго на цэлы рой думак. Хацэвіча ён пазнаў даўно—яшчэ тады, калі апошні самахвоць зьявіўся з усёй зброяй, нібы то пакаяўшыся, „сазнаўшы свае памылкі. Яго тады пасадзілі: спачатку да суда, а потым па суду на пяць гадоў з прымяненьнем амністыі. Так сама добра былі вядомы яму ўсе падзеі гэтага бандыты“.

—Дасачыць, абавязкова трэба дасачыць! Адмычка была ў кішэні, значыць... а калі ён зьбіраўся йсьці за грашыма, дык тым больш выканае гэта зараз Яго-б можна было падстрэліць і зараз—вось з-за гэтае хваінкі, але-ж калі ўжо страляць, дык каб было за што кулю не шкадаваць.

Насупраць, шагох у дзесяці, адпыхваўся Мікола. Некаторы час ён стаяў нярухомы. Вось нешта жэстыкулюе. Мабыць размаўляе з сабой.

Мікола й сапраўды разважаў. Месца яму ў Беларусі больш няма. Трэба за граніцу і як найхутчэй. А грошы? Шчэ ня позна. Мікола запаліў сьпічку, паглядзеў на гадзіньнік. Палова дванаццатай. Шчэ можна пасьпець. Мікола закурыў ды пашоў далей. Веткі й сухія лісты шарахцелі пад нагамі. Крыху пачакаўшы і усьлед накіраваўся, міліцыянэр, ня выпускаючы з вуха шагоў Міколы.

Раптам шорах ад шагоў зьнік. Асьцярожна ступаючы, міліцыянэр нечакана для самога сябе апынуўся на полі. Прыглядзіўся. Шагоў з дзьвесьце на перадзі па картапляніку йшоў Мікола.

Гэтак праз паўгадзіны яны дашлі да хутару Хацэвічаў. На двары Мікола нешта падняў каля частаколу й накіраваўся ў хату. Паказалася сьвятло. Пад вакном заняў месца міліцыянэр. Мікола аглядаў леварвэр. Потым дастаў з шкапы сакваяж, пералічыў грошы, палажыў у сакваяж нейкія рэчы і сьвятло зьнікла.

Мікола вышаў сабраны па дарожнаму. Прама цераз поле накіраваўся на Мураўку. Ніводнага разу не азірнуўся: міліцыянэр вольна ступаў усьлед Міколу. Толькі ўваходзячы ў вёску Мікола раптам павярнуў твар. Міліцыянэр маланкаю паў вобзямлю. Не заўважыў. Першую хату мінуў і павярнуў на двор другой, маленькай старой. На агародзе за ёй стаяў, як відаць, толькі што пабудаваны новы дом з яшчэ ня ўстаўленымі вокнамі.

Пастукаў.

— Хто тут,—пачуўся мужчынскі голас з-за нізкай, квадратовай старой хаткі.

— Свой, Юзік Сымонавіч. Калі ласка адчынеце!

— Проша, проша.

Юзік запаліў лямпу. Пад вакном, у вагародчыку, прымайстраваўся міліцыянэр.

— Што гэта з вамі, Мікола Зотавіч! Вы так пабялелі. Да вы ж, як сьмерць!

— Глупства вы кажаце! Звычайна выглядаю.

Мікола гаварыў нібы то спакойна. Толькі рукі ніяк ня мог стрымаць: яны былі як-бы наэлектрызаваны.

— Ды ў вас-жа трасуцца рукі!

— Вы мабыць ня выспаліся, Юзік Сымонавіч!

Мікола нават усьмяхнуўся.—Давайце лепш закурым.

— Куды гэта? у Менск?—Зноў спытаўся Юзік, палячы папяросу. Так, ёсьць справа, ды мусіць крыху спазьніўся к чугунцы.

— Зараз гадзіна. Да паловы трэцяй яшчэ заедзеце.

— Справа ў тым, што я на сваіх дваіх: Мікіту да зарэзу трэба коні—к заўтру якраз нанытаў штук пяць капальніц. Ён жа да вас таксама напэўна заходзіў, калі наймаў у вашай вёсцы!?

— Заходзіў. Але якраз жонку забраў цесьць на падмогу. У мяне-ж ведаеш, гаспадарка: з поўдзесяціны пасеяў, дык я ўжо яе выкапаў.

— Аднак вы багацей за нас за ўсіх.—І крыху памаўчаўшы: — Юзік Сымонавіч! Зрабеце ласку, падвязеце да станцыі.

— Я-б з вялікай ахвотай,—усёроўна конь гуляе. Толькі хату як кінуць? Самі ведаеце: сякі такі скарб ёсьць. Хіба вось што. Я запрагу каня, а яжджайце адзін! Па дарозе заедзеце да цесьця (заўтра субота, можа жонка заахвоціца прыехаць), а вы ўжо як небудзь паўтары вярсты пройдзеце да чугункі.

— Я ня ведаю, як вас дзякаваць, Юзік Сымонавіч! Вы для мяне нібы бацька родны...

— Кіньне вы глупства. Ну дык я зараз-жа запрагу.

Юзік вышаў.

Стоячы пад вакном міліцыянэр працаваў над плянам, як быць далей. Ясна, што Мікола сабраўся бегчы. А сядзе на воз, тады зусім прапала „ Не...стой!“ чуць ня выкрыкнуў нарэшце ён: „Ня то. Тут жыве прыехаўшы з Амэрыкі. Сюды й толькі сюды сягоньня Мікола сабраўся йсьці рабаваць. Міліцыянэр не пакінуў свае пазыцыі й адным вокам з-за сьцяны пазіраў у хату, сочачы за кожным рухам Міколы.

А той, як толькі вышаў з хаты Юзік, пачаў дзейнічаць. З-пад падушкі Юзіка дастаў шкатулку, адчыніў шафу, папароўся там, узяў нейкія паперы й палажыў усё гэта ў сакваяж. Але не пасьпеў ён яго зачыніць, як два выстралы і грамавое „Ні з месца“, аглушылі яго.

Мікола шахнуўся на пол. Інстыктыўна выпусьціў некалькі выстралаў, кулі ад якіх папалі ў вакно і столь. Потым схапіўся, але ўбачыўшы дула леварвэра, накіраванае прама яму ў грудзі, выпусьціў з рук свой.

— Рукі ўверх!

Замест гэтага, з бліскучымі вачыма кінуўся Мікола на міліцыянэра. Новы выстрал—цяпер міліцыянэр не шкадаваў кулі: яна была пушчана прама ў Міколу, які бы сноп паляцеў на зямлю.

Прыбег Юзік.

— Не палохайцеся! Вось ваша шкатулка (напэўна з грашыма) — міліцыянэр адчыніў сакваяж Міколы: „—а вось яшчэ й ваш пашпарт. Вось якога сябру вы хацелі адвезьці к чугунцы — там бы быў і ваш конь“

— Спасіцель!—У Юзіка паказаліся сьлёзы: — тут жа ўсё, што на працягу столькі год пакутамі, крывёю й потам зароблена.

— Ых... гад... — Са ўсяго размаху стукнуў валяючагася на палу Міколу.

— Вады!—папрасіў апошні.

— Смалы, а не вады табе! — і яшчэ адзін удар палучыў Мікола ў бок.

— Ну, кіньце!—зьвярнуўся міліцыянэр да Юзіка:—Давайце наложым павязку на рану.

Выстралы ўзбудзілі ўсю вёску. Усе зьбегліся к хаце Юзіка.

— Таварыш міліцыянэр! Дазволь нам яго самім судзіць. Мы ведаем ня толькі сягоняшняе, а ўсё пра гэтага бандыта. Ня варт ён, каб яго лячылі—і з злосьцю стары Іван падыйшоў і сарваў павязку.

— Таварышы! так ня можна! Ён атрымае, што заслужыў, наш пролетарскі закон разьбярэцца па праўдзе.

Сам Юзік даў згоду завезьці заарыштаванага, ў рвк. Мікола быў цяжка паранены, а таму пакуль што дапрос зьнялі толькі з Мікіты, які шчыра й сьмела расказаў, што ведаў пра брата. На другі дзень Мікіту зволілі.

Ал. Дзямідовіч.

* * *

Эх, вы прасторы, палеткі шырокія,
Рэчкі, курганы, лясы,
Прагнеце ў далі, нямыя, далёкія
Нівы бьязмернай красы.

Вабіце сілай мяне вы цудоўнаю,
Шэпты чаруюць завуць,
Хочу ляцець к вам, прасторы чароўныя,—
Думкі к вам роем плывуць.

Хочу абняцца з прывольлем, абшарамі,
Птушкай адгэтуль ляцець...
Там дзе калосьсе шапочуцца з марамі
Буду аб шчасьці я пець!

Ул. Прыбыткоўскі.

# СЁНЬНЯ—ДЫСОНАНС.

Буду славіць
паравоз я сёньня.
Буду гукі
выдзіраць з галавы.
Гукі чэрап
расьпіралі звонам,
сьвістам, грукам
лязгам кол харавым,
Раніца
кастрычніка
крывавая
акрывавіла
пялёнкі мае
крывёю
За мяса Прэсьні
паравозы раўлі
араваю.
Мазгі працоўных
лізалі зброю.
Чалябінск—Менск.
Калыхаў мяне паравоз.
Калыскай—вагон.
Я ў чэрапе сажу прывёз,
бо ў ім паравозных думак
прытон.
Паравоз!
Ты-ж ня гад—кулак,
не падліза нэпман.
Ты!
мяне проста гадаваў.
Перад табою скідаю кепку
Твая
мая галава.
Слухай!
тваё концэрты
любіць мае пакаленьне.
У іх ня чуваць болю
ад муштраў.
Я не запомню концэрт,
Як памёр Ленін —

колектыўных
думак
люстра.
Засьпяваў паравоз:
Жалю мейсца —
выграбныя ямы.
Хочаш сэрца
паказаць нагім?
Межы!.. шырай
адчыняй брат брамы.
Просяць?!. кідай
кармазын-сьцягі!
Лаві! Будуй
чырвонае сонца.
Тугу туга
сажмі ў кулак.
„Кулак“ скрыгай
зубамі аб гляк,
а ты будуй
чырвонае сонца.
Прасьпяваў паравоз і насустрач вясьне
Там спаткаюць братцы з гартаванай душой.
Ой вясна... хто цябе зразумеець
Таму сьцежка адна—у вір галавой.
Не... ой не... ні за што не дазволіць „жыцьцё“
Павярнуцца і полымя сонца згасіць,
Разьвітаньнем хай вые бярозы выцьцё
Ды хаўтурна трыпціць трапыханьне асін
Паравозныя думкі! вам хатай мой чэрап.
Мне ня трэба спакою, аўсянае цішы
Хай праз вас я зубілам пашчэнкі ашчэрыў,
Ды ніколі ня зьвісну шчарнелаю вішняй!

■ ■ ■ ■ ■ ■

С. Калядка.

# МУР.

Падмурак ёсьць.
Закладзены з каменьня мур,
Абліты цэмэнтам
І моцны як скала
Глядзеў з пачатку так патайна.

Свой арэол мазоль будаўніка
Узьнімае тут у гонары вялікім.
Прайдуць вякі,
Забудзецца працоўная рука,
Застанецца, як помнік
    мур адзін.
Будоўля фабрыкай кіпіць.
Тут муляр, цесьляр
    столяр і каваль
як мураўі працуюць;
На штолах рух
і прошча штось прымае
    буйнае
        бурлівае,
якім кіруе
некі дзіўны мэханізм.
Гадамі цягнецца будоўля,
а з кожным усе расьце,
    расьце...
І страшным мур
    Зімой здаецца,
калі пад буйны
    ветра сьпеў
з небам
    цалуюцца сьцены,
А навакол
стаяць рыштаўкі
    нібы азярод
І вось канец.
Паверхавы карніз
Узьдзеў цяжэлязную шапку;
Страка з бліскучаю к[illegible]ю
Завяршыла працу соцен рук.

Закончан мур.
Зьмяніўся ўвысь абшар.
Жыцьцё зазіхацела
і бурліць як вадаспад.
Ня верыцца што год,
а то і два назад
Была тут ціхая паляна,
Якая ўлетку
Коўдраю зялёнаю заслана,
Зімою сьнегавымі гурамі пакрыта.

# БІБЛІАГРАФІЯ

**ЯНКА БОБРЫК, АЛЕСЬ ЗВОНАК, ЯНКА ТУМІЛОВІЧ.** ПУНСОВАЕ РАНЬНЕ. Вершы. Выданьне Ц Б. Маладняка 1926 году. Стар. 62 Цана 20 кап.

Маладняко̆ўская літаратура папаўняецца ўсё новымі і новымі творамі маладых пісьменьнікаў, шэрагі маладняку растуць і здольныя таварышы паступова сябе выяўляюць. Зборнік першых твораў Бобрыка, Звонака і Туміловіча заслугоўвае увагі, бо на пісьменьнікаў гэтых есьць надзея.

У Янкі Бобрыка пераважна сялянскія матывы. Малады поэта любіць раніцу ў восень, бо раніцу любіць у жыцьці. Ён увесь прасякнуты жаданьнем сьветлае будучыны Ён хоча плысьці ў прастор, але ёсьць якісьці страх за нязнанасьць у жыцьці. Яму не прадстаўляецца вядомы шлях, „пакуль лілёвасьцю засланы ня вынікне ў пазалоце дзень“. Песьня й праца, песьня змаганьня ў яго не разлучны, бо песьня: гэта—

Пунсовае раньне<br>
Запаліла ў грудзёх<br>
Жыватворчы агонь...<br>
Песьня працы,<br>
Песьня змаганьня<br>
Нас да мэты вядзе<br>
Напралом!.

Алесь Звонак больш рэволюцыйны і моцны, бо:

У грудзёх магутнай сіле не астыць...

Ён ува ўсім бачыць:

Нават у вёсцы дальняй і глухой<br>
Новы сьпеў у жалейках пастухоў.

Ён повен веры і імкненьня:

А тады ўбачым мы пару<br>
Аб якой бацькі ня сьнілі нават...<br>
Дык шумі-ж красуня-Беларусь<br>
Нашых дзён шумліваю дубраваю.

Але ён ня можа пазбыць жытнёвую тугу. Вёска яму міла і ён аб ёй марыць, яго там захопліваюць прасторы, палі і гаі і ўспаміны:

Мо затым і будзяць сэрца ўзмахі,<br>
Ўзмахі вольнага прастору,<br>
Як убачыў шыр жытнёвых шляхаў...<br>
Ой, ды радасьць узьвіць было пра што!

Хоць разважаньні ў поэты й здаровыя, але к вёсцы ён больш прывык і забыць яе ня можа. Селянін яго стары друг:

А сустрэўся ў жыцьце з селянінам,<br>
Як старому другу я быў рад.

Яму ў вёсцы ўсё гэта знаёма

Та́, знаем гэты пах хвой смалістых
Так, знаем гэты шолах калін.

У поэты пануе сялянскі настрой, ён далёк ад поўнае пролетарскае псыхолёгіі і сваю дарогу пэўна ня вызначыў:

Не магу я
З Вамі доўга быць
Я ад Вас
Пайду..
Пайду туды я
Дзе граніт і сталь
Грыміць.
А мо' ня варта
Расставацца з нівай·
Залатой?!
Але не!
Не магу застацца з вамі
Травы,
А пайду — дзе сталі звон расьце...
Я сказаў „бывайце“!.. далям імглістым
Хутка зноў скажу ім:
„Добры дзень!..“

У Туміловіча вялікі размах, шмат дынамікі:

Расьпіліла кудлы раніца,
Промень асьвяціў зямельку,
Раць бунтарская буяніцца
Грае новы лад жалейка.

Ён бачыць, што ў горадзе на заводзе:

Асілак сталёвы—горнам
Пачаў распаляць новы лёс нам

Сіла гораду ў заводах:

Горад заводам бурбоніцца,
Грае сталёвае „жніва‘...

У яго сэрцы кіпіць юнацтва, есьць цяга к вучобе, але-ж яго вёска так ня вабіць яго цягне больш горад:

Не пайду я ў бор смаляны,
Дзе палошча вецер хвойкі.
Мяне горад дымны маніць
У свой мур высока стромкі...

У Туміловіча заўважаецца большая ідэолёгічная вытрыманасьць. Наогул гаворачы, мэта ўва усіх есьць. Тэхнічна вершы пабудованы прыгожа, чытаюцца лёгка. Дадатных бакоў шмат і адчуваецца нават, што гэтыя поэты, зрабіўшы удачную пробу, пойдуць шпарка ўперад.

*П. СЯРГЭЙЧЫК.*

**Увага да часопісі МАЛАДНЯК № 11 (2)** штомесячнай, літаратурна-мастацкай і грамадзка-політычнай часопісі. Менск 1926 год.

Як і заўсёды з спазьненьнем вышаў чарговы нумар (11) часопісі „Маладняк“. Ня маючы часу дасканала азнаёміцца з усім матар'ялам, які ў ім зьмешчаны, я хачу застанавіцца толькі на тым, што мне перш за ўсё кінулася ў вочы пры беглым аглядзе нумару, і што на мой погляд, зьяўляецца ў ім самым галоўным — гэта на маладнякоў-

скай (калі не казаць больш) нявытрыманасьці гэтага нумару. Бо як іначай можна расцэніваць зьмяшчэньне ў гэтым нумары часопісі нізкі думак Ал. Дудара „На раздарожжы“.

Я не бяруся сьцьвердзіць, што Ал. Дудар пачаў пісаць вершы з пялёнак, як сказаў пра яго аднойчы Вольны, але для мяне зьяўляецца бясспрэчным, што жыць Дудар пачаў як раз з таго часу. А загэтым, трэба меркаваць, што ён мог за апошняе дзесяцігодзьдзе назіраць тую гэраічную барацьбу, якую прышлося весьці рабочай клясе нашага саюзу з капіталізмам, барацьбу, якая мела сваім эпогэям Слаўны Кастрычнік, барацьбу якая ў розных праявах, ад грамадзянскай вайны да барацьбы на гаспадарчым фронце, цягнецца і да нашых дзён.

Я не чакаю такой наіўнасьці ад Ал. Дудара, па якой магчыма меркаваць, што, жывучы ў час такога жыцьцёвага вадазвароту, у часе рашучай барацьбы, ён гэта ўсё прагледзіў, гэтага змаганьня ня бачыў—гэтага ня бачыць ня можна, тым больш чалавеку, які прэтэндуе на званьне маладнякоўскага поэты.

Паглядзім, ці так гэта? Не бяруся казаць за ранейшае, але ідэолёгічная сучаснасьць Дудара выразна відаць з яго разважаньняў: „На раздарожжы“.

На дзевятым годзе пролетарскае рэволюцыі, калі стала відавочна ўсім і ўсякому, што з двух дзейных начал,—капіталістычнага і социялістычнага, перамога на баку социялістычнага, Дудар у сваіх імкненьнях горачай натуры бо:

Усё-ж такі і я ня зломак,
І кроў у сэрцы гарачая,

як кажа ён сам, прыходзіць у тупік і за якім з іхісьці ня ведае:

Просты шлях, а цяпер раздарожжа,
Дык куды далей?

Поступ да социялізму відаць не па сэрцу Дудару, іншага ходу, відаць, чакаў ён ад рэволюцыі, бо для яго:

— Стала раньне з пунсовага сінім,
— Дня залаты прасьвет
Пухне рабінавым сокам,

Хаця і стары мір, загінуўшы ў мінулым, ня так ужо яго вабіць, гэта зіма і марозы, але ў супастаўленьні з сучасным, Дудар прызнаецца, што ўсё-ж такі, той час дзеля яго шчасьлівейшы ў сьвеце:

Помніш зіму і марозы,
Браму і мёрзлае вецьцё?
Быў я п'яны і цьвярозы
І шчасьлівейшы ў сьвеце.

А зараз што дзеля яго?

І туга і восень,
Ня зьвіняць калосьсі...

і загэтым яго;

Сэрца не замоўкне
Аб лістох пажоўклых.

Дудар на раздарожжы, але гэта і ня дзіва, на сталай пэўнай дарозе яго і ня бачылі. І два шляхі: капіталістычны і социялістычны, яго відаць не здавальняюць, бо інакш і раздарожжа быць не магло, а з другога боку—ці можа чалавек адданы справе пролетарскае рэволюцыі, справе працоўных стаяць на раздарожжы паміж гэтых двух шляхоў.

Але дзеля Дудара, выбар відаць малы: натура шырокая—падавай „больш да по хлеще“. Ну, выдумаць яшчэ якія колечы шляхі не магчыма, а вот „по хлеще“ можна. Чым ня хлёсткае на гэтым капіталістычным шляху лакейскае прыслужніцтва рэнэгатаў рабочае клясы і працоўных. Але-ж гэта ня шлях, гэта прысада капіталістычнага шляху.

І калі у нашым рэволюцыйным змаганьні за пабудову социялістычнага ладу мы бачым і капіталістычную сьцежку, што па Дудару:

Ў чырвані лагчыны
Сталі дзьве дзяўчыны
Розныя аблічам..

і яго:

Абедзьве клічуць.
І у першай косы,
Нібы ліст у восень...,

то чаму-ж для яго гэта першая павабная дзяўчына ня шлях? Чаму раздарожжа? Няма гэтых аздобных прысад лакейства і прадажніцтва?

Другая-ж, што „пухне рабінавым сокам“' не падабаецца Дудару за развагу цьвярозым розумам, але-ж гэтая цьвярозая развага розумам есьць матар'ялізм, марксыцкая сьцежка да соцыялізму. Але гэта не ў Дударовым гусьце, па яго:

Плюнь на розум цьвярозы, —
Розум жыцьця не асьвеціць...

побач з успамінамі таго часу, калі такога цьвярозага розуму ня было:

Помніш зіму і марозы,
Браму і мёрзлае вецьцё?

Выходзіць, што раздарожжа Дудара дзеля яго самаго непаразуменьне; ён проста неўразумеў, што сьцежак ёсьць толькі дзьве, а рэшта, гэта прысады да аднэй з гэтых сьцежак, куды накіроўваюцца імкненьні Дудара, бо зараз сэрца журбу чуе, і туга і восень, сэрца тугой варожыць:

Тых разудалых няма —
Сэрца тугой варожыць.

Выбірае сабе ўрэшце Дудар сьцежку прама класычным прыёмам:

Выйду ў сьвет, пакланюся жыцьцю я
І скажу — „вядзі“!

у надзеі, што тады:

Можа сэрца журбы не пачуе
і вясельлем душа загудзіць.

Магу папярэдзіць Дудара, на які шлях вынясуць яго жыцьцёвыя хвалі, пры тым яшчэ, без развагі цьвярозым розумам—к цяністым прысадам, але разам хачу запэўніць, што гэтым прысадам у нас ніколі ня вырасьці!

Ці маладнякоўскі гэта твор „На раздарожжы„? Ці па маладнякоўску вытрыман 11 нумар часопісі „Маладняк“, зьмясьціўшы гэта?

Адказ адзін—не, як і не сур'ёзны падыход быў у Ц. Б. Маладняка, вызначаючы Ал. Дудара літсэкрэтаром Ц. Б., аб чым кажа нам хроніка ў гэтым-жа нумару.

Ворша.

*М. ГАНЧАРЫК.*

---

**МАКСІМ ГАРЭЦКІ.** ДОСЬВІТКІ. Апавяданьні. Б. Д. В. 1926 г. Тыраж 4000 Цана 40 кап. Стар. 104.

Максім Гарэцкі вядомы ў масах больш як гісторык літаратуры, як крытык, вядомы таксама і яго слоўнікі: беларуска-расійскі і расійска-беларускі, апошні зложан супольна з Байковым, як пісьменьніка яго мала хто ведае. Яго ранейшыя творы цяжка дастаць, выдадзеныя ў Вільні, у малой колькасьці экзэмпляраў, яны даўно разышліся і цяпер зьяўляюцца амаль што бібліографічнай рэдкасьцю, тым больш цікавы для чытача зборнік „Досьвіткі“, выдадзены Дзяржаўным Выдавецтвам.

„Доўгімі зімовымі досьвіткамі чуў я, а пазьней, калі выбіўся ў сьвятлейшы сьвет сьпісаў, як мучылі паны нашу бедную цётку Тацяну за нейкую заморскую сучку“, пачынае Максім Гарэцкі сваё ўступнае апавяданьне і далей пералічвае цэлы шэраг другіх здарэньняў з часоў прыгону

Паншчына—галоўны мотыў яго „досьвіткаў“.

Цёмнаю страшнаю плямай ляжыць яна ў нашай гісторыі, успаміны аб ёй хвалююць сэрца маладога дзяцюка, што слухае дзедавы простыя словы.

Змрокам досьвітак і спакойнай эпічнасьцю пранізаны ўсе дзесяць апавяданьняў, зьмешчаных у зборніку. Апавяданьні вельмі сюжэтны, ад кожнага застаецца ў памяці шэраг яскравых вобразаў, дзякуючы закончанай схэме пабудовы кожнага, а таксама дзякуючы арыгінальнаму стылю аўтара.

У Максіма Гарэцкага сьвежы і характэрны сынтакс, ён заўжды бярэ найбольш спэцыфічныя беларускія народныя звароткі і „слоўцы".

Сапраўды, хто-б дагадаўся сказаць напрыклад, так: „Як прышло жніва, не бялелася ўвечары суkeначка між дрэў у садзе, затое бесьпярач стаяла ля сіняга плоту карэта пад доктара", альбо „Мягнулася з грэбнем і мычкамі лёну дзеўка і спуджаная, таго-ж часу дзесь прапала". Чаму ня „докторская карэта", замест „карэта пад доктара" альбо „у той-жа час", замест „таго-ж часу?„ Трэба пранікнуцца асаблівасьцямі мовы, каб выбраць іменна такія звароткі, а яны бязумоўна ўспрыгажаюць і надаюць жывасьць сказу.

Альбо, напрыклад з „Панскай сучкі": „А паважуся спытацца шчанючочкі.. яны засталіся жывыя, пан бог хаваў?" ці, князь Вішнявецкі, адтуль жа: „Яна прышла ў мой дом. Пане, я-ж дрыжэў над ёю, я-ж яе кукобіў..." — гэта пра сучку. Выразы якіх не забудзеш.

Гарэцкі па сваёй творчасьці—новэлісты, ён не распрацоўвае характар, як нешта асобнае, важнае само ў сабе, ён абмяжоўваецца якім-небудзь выпадкам, невялікім шэрагам рысак характару, адсюль пераважны ухіл у бок таго ці іншага пэўнага стану пачуцьцяў чалавека, і тут ён паказвае сябе досіць глыбокім псыхолёгам. Узяць хоць-бы перажываньні кухара са „смачнага зайца", характар кухара, іменна як данага кухара, які служыў у такога і такога пана, нам ня дадзены, мы бачым наогул чалавека, бачым як гэты чалавек баіцца, „зьбялеў, дрыжэў і не казаў ні слова", як ён з гора захварэў, і як урэшце „вялікім шчасьцем засьвяціліся яго змучаныя, праваленыя, з сінякамі ад сардэчнае хваробы вочы". Прычына адчуваньняў гэтага кухара крыецца ня ў ім самым, як істоце пэўнага складу, а ў тых жыцьцёвых абставінах, якія прымушаюць яго адчуваць, так, а ня іначай.

Кожнае адчуваньне такім чынам Гарэцкім ў большасьці матывіравана.

Самым цэльным у „Досьвітках" з гэтага боку зьяўляецца апавяданьне „Стары профэсар", гэты профэсар так кахае сваю хворую жонку, што ахвяруе нават сваю навуку і, потайкам, саромячыся, каб ніхто ня бачыў, абвязвае яе вяровачкаю, як раіла шаптуха, каб выратаваць ад сьмерці; большай напружанасьці пачуцьцяў чалавека, які ўсё яшчэ спадзяецца, ня можна прыдумаць.

У Гарэцкага заўважваецца вельмі часта пахіл да апрацоўваньня паданьняў, тут бясспрэчна сказаўся уплыў народнай творчасьці, Гарэцкі хоць часам і ад сябе разьвівае сюжэт, але часьцей за ўсё прабуе пераняць сьветаадчуваньне сялянства і тады разьвівае сюжэт прыёмам казкі. Трэба адзначыць, што апошняе наогул вельмі пашыраная асаблівасьць сярод нашаніўцаў, да якіх у свой час належыў і Гарэцкі.

З боку разьвіцьця сюжэту Гарэцкага цалком арыгінальным назваць ня можна надта ўжо часта дапамагае яму памяць і запісная кніжка, аб чым ён між іншым і сьведчыць у пачатку сваіх „Досьвіткаў", затое выяўленьне аксэсуараў, а таксама клясы і стану гэрояў, у яго пастаўлена заўжды яскрава.

Яго магнаты проста скульптурны, аблічча яго немца з „Нямкіняю" (апавяданьне „Сосна" выяўляе як-бы найхарактэрнейшыя асаблівасьці іхняй нацыі, і самае галоўнае, што гэта ў яго выходзіць не схэматычна, ня гледзячы на нейкі максімум, на нейкую крайнасьць яго гэрояў, яны застаюцца жывымі. Ці можна за гэта назваць Гарэцкага рэалістым? Бязумоўна цалком не. Папершае ўжо самая штучнасьць тэматычнага падбору паказвае, што Гарэцкі ня любіць выяўляць звычайныя, простыя моманты, падругое, таемнасьць і казачнасьць яго адчуваньняў, Як цікавую асаблівасьць яго твораў, трэба

зазначыць урэшце той факт, што Гарэцкі, востра паставіўшы праблему, не дае ў канцы адказу на запытаньні чытача, парад чытач ня знойдзе і можа выводзіць з апавяданьня ўсё, што хоча. Як выключэньне, можна прывесьці хіба толькі „Багатую пчэльню“.

У Гарэцкага пападаецца й гумар, але гэта ня Коласаўскі гумар, гэта гумар злы, зьдзеклівы, бязьлітасны, успомніце хоць-бы вобраз ката—„князёвага ўлюбенца“ з апавяданьня „Смачны заяц“.

Бывае й наадварот, Гарэцкі з рэдкаснай цяплынёю адносіцца да сваіх гэрояў, асабліва калі гэта дзеці: напрыклад, ён любуецца, наглядзецца ня можа на Эльзачку (апавяданьне „Сасна“), прабачае ёй ўсё, так што пачынаеш думаць, што яна яму бліжэй, чым нават старому немцу—млымару, яе бацьку,

„Досьвіткі“ Максіма Гарэцкага—кніжка, якую трэба і можна прачытаць. усё ў ёй будзе дапамагаць ўстрыманьню чытача: і стыль, і вобразы, і тэма, нават сама надворная форма кніжкі, бо выдадзена сапраўды добра.

*С. ДРОБУШ*

---

ЯЗЭП ПУШЧА „V І Т А“. Выданьне Ц. Б. Маладняка. 60 стар. Цана 20 кап.

Жыцьцё  
— Суровасьць і закон.  
З табой ніяк я не паладжу,  
Душа ня хоча быць званком  
Твайго і рогату і плачу.

Так пачынаецца зборнік вершаў „Vita“ Язэпа Пушчы, які складаецца з чатырох разьдзелаў: жыцьцё, мэлёдыі, сугучнасьць і нашы дні. „Vita“—значыць жыцьцё, але ўсё-ж поўнай прасякнутасьці жыцьцём твораў зборнічку мы ня бачым, затое сустракаем шмат разважаньняў аб жыцьці, падобных да вышэй прыведзенага.

У другім вершы Пушча гаворыць:

Бо ніяк, аніяк  
Немагчыма жыцьцю дагадзіць.

Тут зноў разважаньне—ці можна з жыцьцём паладзіць, ці можна яму дагадзіць, хоць побач з гэтым у Пушчы сустракаем наступны заклік:

Хлапцы!  
Сёньня з намі сонца. —  
Мы з ім ў дарозе ня прыстанем.

Альбо:

Брава!  
— Маладасьць сьвята.  
Дзён мінулых няма.  
Сёньня будзем электрыку сватаць,  
Нашто нам з лучынкамі зіма.

Тут ужо моцная вера чуваць, што з сонцам можна сьмела ісьці ўперад, што каб паладзіць з жыцьцём „трэба электрыку сватаць“. Як бачыце у душы поэты існуе некаторае раздваеньне, якое зближае Пушчу з Есеніным. Але параўнаньня поўнага тут правесьці ня можна: у той час калі Есенін баіцца машыны, ня любіць машыну, Пушча з радасьцю бярэцца „электрыку сватаць“ і гэта Пушчу, з боку падыходу да сучаснасьці ставіць вышэй. Але ў яго ёсьць і шмат агульнага з Есеніным, альбо з Блокам:

У гэтым імкненьні нявыразных дум  
Неразгаданым-бы хацеў застацца.  
Я сьцежкай малажаваю іду  
Да новых і нязнаных станцый.

Тут і па думцы і па асобным выразам, як „нявыразны", неразгаданы", „нязначны" Пушча набліжаецца да Есеніна ці Блока.

Так сама цікавы адносіны поэты да вёскі. То яго песьням

...Зьвініць лясоў салют,

то ён раптам заяўляе

...Я даўно развітаўся з палямі.

Гэта і няпраўда, у чым чытач праканаецца прачытаўшы зборнічак Пушчы, да к таму і ня патрэбна. Поэту трэба, як чалавеку больш сьвядомаму, не ўцякаць ад вёскі, не парываць з ёй, а дапамачы селяніну зразумець, што толькі пры сучасным станові-шчы, дыктатуры пролетарыяту сялянска-рабочыя масы прыдуць да лепшага будучага.

Львоў-Рагачэўскі называе творчасьць Есеніна „сымболізмам пад маскай імажы-нізму", гэтак сама можна назваць і творчасьць Пушчы. Як прыклад можна ўзяць верш: „З-за лесу, лесу... і інш.

Вядома, сказаць, што творчасьць Пушчы „сымболізм пад маскай імажынізму", значыць сказаць ня ўсё, ці праўдзівей, пра частку яго творчасьці. Коратка гаворачы, творчасьць Пушчы, што можа заўважыць чытач, рознастайна па мэтрыцы, рытміцы і композыцыі вершу, і праўду кажа поэта, што ў яго

...песьнях вобразы бягуць гуртамі

і што,

іх радасьць—мілагучнасьць звону.

Бо само сабой, чытаючы вершы Пушчы, адчуваеш гэту „мілагучнасьць звону", бачыш вялікае багацьце вобразаў, і вобразаў прыгожых і, што надта важна, у большай частцы зразумелых. І гэта ўсё прымушае ставіць творчасьць Пушчы значна высока. Творчасьць Пушчы—вялікі крок наперад у беларускай літаратуры. У яго ёсьць чаму павучыцца.

За няхваткам месца немагчыма выказаць поўнасьцю свае думкі адносна твор-часьці Пушчы, але прымаючы пад увагу тэхнічныя дасягненьні яго, яго самастойнасьць, як кажа сам поэта:

Вяршка чужога не сальлюць
І жыць падсуседзьмі я не дазволю.

Трэба спадзявацца, што надалей поэта ня будзе толькі заклікаць:

Даволі гімны нюняць,
Каб радасьць ня ўпілася болем
На сялянскіх пунях,

але ясна і проста пойдзе сьцежкай сучаснасьці, правільна „падойдзе да шчасьця", і так як патрабуе жыцьцё, ня будзе „хадзіць паміж дрэў.

*ПРЫБЫТКОЎСКІ.*

# Хроніка.

— Вышаў з друку першы сшытак Аршанскага Акруговага Краязнаўчага Т-ва „Аршаншчына", які зьмяшчае ў сябе прыродна-гістарычныя агляды Аршаншчыны. Хутка выйдзе другі сшытак, які будзе зьмяшчаць рэволюцыйныя падзеі 1905 году на Аршаншчыне.

— Навуковае Т-ва па вывучэньню Беларусі пры Беларускай Дзярж. С.-Г. Акадэміі распачало выданьне сваіх навуковых прац. Здадзен у друк і хутка выйдзе І-шы том запісак Т-ва.

— З восені бягучага году у Воршы адчыняецца пэдагагічны беларускі тэхнікум у складзе першых двух курсаў.

— Падрыхтоўваецца пытаньне к адчыненьню з наступнага году ў г. Воршы копэрацыйна-гандлёвага тэхнікуму, дзеля чаго мяркуецца заканчэньне пабудовай коопэрацыйнага гарадка паміж горадам і станцыяй.

— Шэраг маладнякоўцаў Аршанскае акругі рыхтуюць к выданьню ў кніжніцы Маладняка, невялічкіх зборнікаў сваіх твораў: п'есак дзеля дзіцячага тэатру, вершаў і апавяданьняў.

— У гэтым месяцы г. Воршу наведаў старшыня ЦВК БССР і СССР т. Чарвякоў, які пабываў у некаторых раёнах і сельсаветах акругі, а гэтак-жа ў Беларускай Дзярж. Сельска-Гаспадарчай Акадэміі ў Горках. У прывітаньне прыезду т. Чарвякова, Аршанскай філіяй сумесна з Акружкамолам быў наладжаны маладнякоўскі вечар, на якім гэтак-жа, праездам з Полацку прысутнічалі старшыня СНК Беларусі тав. Адамовіч, Народны Камісар Асьветы Беларусі т. Баліцкі, сэкрэтар Полацк. Акружкому т. Адамовіч Алесь і Народны Паэта Беларусі Янка Купала

— Рыхтуецца да друку 3 (5) нумар Аршанскага Маладняка. Усе матар'ялы неабходна накіроўваць альбо здаваць у Воршы т. Сташэўскаму, культаддзел Акрпрофсавету, у Горках—Ганчарыку, С.-Г. Акадэмія.

— Пастановай Бюро філіі ад 31 мая г. г. студыйныя гурткі распускаюцца да восені на летні перапынак, дзякуючы разьезду на лета многіх сяброў гурткоў.

# Паштовая скрынка.

— **Цімоху Ціхаму.** Апавяданьне „На нашлезі" друкавацца ня будзе.

Вы называеце здарэньне, расказанае Мацеем на начлезе, цікавым. Цікавым яно магло быць тады, калі-б вы ўмела падалі яго чытачу, калі-б вы папрабавалі разьвязаць сапраўды цікавую тэму, закранутую ў вашым апавяданьні.

Адносіны сялянскіх хлапцоў да дзяўчат, пытаньне вельмі вострае і адпаведнае, апроч таго і балючае, ня дарам так часта аб гэтым пішуць у газэтах, вы-ж у сваім апавяданьні глядзіцё на яго зусім ня сур'ёзна, вы дазваляеце сабе зьдзек над абманутай дзяўчынай, вы цінічна рагочаце разам з вашым „гэроем" Мацеем.

У якасьці пэрла вашае творчасьці, дазволім сабе прывесьці такую вытрымку:

— Ці пацалаваў-жа ты яе на апошні разок? запытаўся Нікіпар.

— А ты думаеш, што я не сказаў, дык і не пацалаваў? Я ня толькі пацалаваў, дык... ха—ха—ха!

— Маладзец-жа ты, прагаварыў я, што ня толькі пацалаваў, дык і яшчэ нешта зробіў... Але прадаўжай... Цікавая апавяданьня...

Магчыма, што на вёсцы такая размова і мела месца, у гэтым няма нічога дзіўнага, дзіўна толькі як вы асьмеліліся паслаць такія строчкі ў друк, сьмяяцца над пакрыўджанай дзяўчынай—воля ваша, над чытачом-жа сьмяяцца ня можна.

Каб пісаць апавяданьні, трэба ўважліва адносіцца да жыцьця, таксама ня шкодзіць пачытаць і Лёсіка, бо мова ў вас кульгае на ўсе чатыры нагі, а ўрэшце памятайце, што Арцыбашавым і Вярбіцкім, хоць-бы нават з сялянскай псыхолёгіяй, ня месца ў сучаснай літаратуры.

*С. Д.*

— **Ермалаеву**, м. Круглае. Напісана слаба і апрача таго шмат русіцызмаў. Для таго, каб умець пісаць вершы неабходна яшчэ шмат павучыцца, а ня так, як ты сам кажаш „сэў, ды ў дзьве-тры хвілінкі нашпіляў". Чытай сучасных пісьменьнікаў, асабліва маладнякоўцаў, каб падучыцца. Тады прабуй.

— **Мяжэвічу**, Копыскі раён. „Гутарку старога дзеда з піонэрам" перадалі для скарыстаньня ў газэту „Комуністычны Шлях", рэшта слабое і ў друк не гадзіцца.

—**Рабцаву Б**. Талачынскага раёну. Заяву і вершы атрымалі; вершы слабаваты неабходна больш чытаць, каб навучыцца як пісаць. З восені думаем у м. Талачыне заснаваць Маладнякоўскі гурток, які дапаможа табе навучыцца як лепш пісаць вершы

— **Аніковічу**, Талачынскага раёну. „Имея 35 стихов написаных мною из жизни людей и природы и до 15 стихов про любовь", ты просіш аб прыёме ў Маладняк. У Маладняк мы прымаем ня тых, у каго многа напісана „стихов", а у каго хоць і мала, але добрыя. Вучыцца-ж у Маладняку можна ўсім жадаючым і ня маючы „стихов". Дзеля гэтага ёсьць студыйныя гурткі Маладняка у Воршы, Горках, Круглым, а з восені думаем адчыніць і ў Талачыне.

— **Бразгунову**, Горацкага раёну. Заяву і вершы твае атрымалі, але ў Маладняк мы прымаем толькі тых, хто піша па беларуску, бо гэта аб'яднаньне беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў. Калі здолееш пісаць па беларуску—прысылай, разгледзім.

# ЗЬМЕСТ.